*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 5 (741)** **1 ЛЮТАГА 2006 г.**

# РАДА ТБМ



29 студзеня ў Менску прайшло паседжанне Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны". Рада разглядзела наступныя пытанні:

1. Абмеркаванне і зацвярджэнне плана работы ТБМ на 2006 г.
2. Аб унясенні змен у Статут ТБМ у адпаведнасці з новай версіяй Закона аб грамадскіх аб'яднаннях.
3. Аб зменах у памерах складак за 2006 г.
4. Прыём у сябры ТБМ і рэгістрацыя суполак ТБМ.
5. Рознае.

Рада ўнесла дапаўненні і зацвердзіла план работы ТБМ на 2006 год.

Рада унесла змены і дапаўненні ў Статут ТБМ і даручыла старшыні ТБМ у месячны тэрмін прадставіць у Міністэрства юстыцыі ўсе неабходныя дакументы для рэгістрацыі змяненняў і дапаўненняў у Статуце ТБМ. Асноўныя змены носяць тэхнічны характар і прадугледжваюць дастасаванне Статута ТБМ да новай рэдакцыі Закона "Аб грамадскіх аб'яднаннях". Разам з тым Рада ўнесла і адну канцэптуальную папраўку ў Статут. Згодна з ёй з'езды ТБМ пасля зацвярджання новай рэдакцыі Статута будуць праводзіцца не цераз два, а цераз тры гады.

Рада ўстанавіла новыя памеры складак сяброў ТБМ:

- грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія працуюць - 6000 рублёў у год;
- беспрацоўныя грамадзяне - 3000 рублёў у год;
- пенсіянеры - 4000 рублёў у год;
- студэнты - 2000 рублёў у год;
- школьнікі - 1000 рублёў у год;
- грамадзяне РФ - 100 расійскіх рублёў у год;
- грамадзяне іншых краін - 5 дол. ЗША у год.

Рада прыняла ў сябры ТБМ групу менскай моладзі, а таксама 14 чалавек з Навасібірска. Рада зарэгістравала Навасібірскую суполку ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны". Рада зарэгістравала Бярозаўскую (Лідскі раён) суполку ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".

Рада прайшла ў даволі аптымістычнай атмасферы, хаця моўная сітуацыя ў краіне схіляе хутчэй не да аптымізму, а да глыбокай заклапочанасці.

***Наш. кар.***



EUROPEAN COMMISSION
EXTERNAL RELATIONS DIRECTORATE GENERAL

DIRECTORATE Eastern Europe, Southern Caucasus, Central Asian Republics.
**Ukraine, Belarus and Moldova**
**The Head of Unit**

Brussels, 22 December 2005
ER/E2/CVR/cf D (2005) 528292

**ЕЎРАПЕЙСКАЯ КАМІСІЯ**
**ГЕНЕРАЛЬНЫ ДЫРЭКТАРАТ МІЖНАРОДНЫХ ДАЧЫНЕННЯЎ**

Дырэктарат Усходняй Еўропы, Паўднёвага Каўказу і Цэнтральнай Азіі
Дырэктар аддзелу Украіны, Беларусі і Малдовы
**Хільдэ Хардэман**

*Брусель, 22 снежня 2005 г.*

**Паважаны спадар Трусаў!**

Дзякуй Вам за ліст пра мову вяшчання "НХ" на Беларусь. Я рады паведаміць Вам, што, дзякуючы дадатковай падтрымцы Еўразвязу, Радыё "Нямецкая хваля" запусціць беларускамоўную версію сваёй 15-хвіліннай перадачы для Беларусі са студзеня 2006.

Гэтая перадача будзе перадавацца таксама і ў дыяпазоне АМ, а зараз перадаецца ў FM дыяпазоне і на сярэдніх хвалях.

Гэта дадатковае вяшчанне павялічыць колькасць слухачоў у Беларусі.

Да таго ж, Еўракамісія неўзабаве запусціць 2-мільённы праект па радыё і тэлевяшчанні на Беларусь. У гэтым вяшчанні, якое пачнецца на пачатку 2006 г. будзе ўжывацца беларуская мова.

# 260 гадоў з дня народзінаў Тадэвуша Касцюшкі



**КАСЦЮШКА** Андрэй Тадэвуш Банавентура (ахрышчаны 12.2.1746, фальварак Мерачоўшчына каля г. Косава Івацэвіцкага р-на Берасцейскай вобл. — 15.-10.1817), палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік нац.-выз. паўстання 1794. З беларускага шляхочага роду Касцюшкаў, гербу "Рох III". Скончыў Любяшоўскі піярскі калегіюм (1760), Варшаўскі кадэцкі корпус (1769), Парыжскую акадэмію (1774). Вывучаў артылерыю, архітэктуру, фартыфікацыі, быў слухачом у Акадэміі жывапісу і скульптуры. У 1774 вярнуўся на радзіму. У 1775 выехаў у Парыж, у 1776—83 добраахвотна ўдзельнічаў у вайне за незалежнасць ЗША. Служыў у амер. арміі на пасадзе гал. вайсковага інжынера арміі Поўначы. У 1777 удзельнічаў у буд-ве фартыфікацый пад Саратогай, кіраваў буд-вам найвялік-шай цытадэлі ЗША ва Уэст-Пойнце. У 1783 Кангрэс ЗША надаў К. званне брыгаднага генерала; узнагароджаны ордэнам Цынцыната, атрымаў амер. грамадзянства, пажыццёвую пенсію і зямельны надзел. У 1784 К. вярнуўся на радзіму з намерам служыць у войску ВКЛ. Гаспадарыў у сваім радавым маёнтку Сяхновічы. У 1789 прызначаны ген.-маёрам у каронnae войска. Удзельнічаў у ваен. дзеяннях супраць Таргавіцкай канфедэрацыі 1792. Як камандзір дывізіі ў арміі Ю.Панятоўскага вызначыўся ў бітве пад Дубенкай. Узнагароджаны ордэнам «Віртуці Мілітары» з наданнем чына ген.-лейтэнанта (1792). У 1792—93 выязджаў у Лейпцыг і Парыж па дапамогу для паўстання (канкрэтнай дапамогі не атрымаў). 24.3.1794 аб'яўлены галоўнакамандуючым узбр сіламі і нач. паўстання. К. даў прысягу на вернасць паўстанню і абвясціў, што будзе змагацца за непарушнасць межаў дзяржавы, устанаўленне самаўладдзя народа і ўсеагульную свабоду. У траўні 1794 прызначыў Найвышэйшую нацыянальную раду, выдаў Паланецкі універсал пра вызваленне сялян ад прыгоннай залежнасці. Імкнуўся надаць паўстанню агульнанар. дэмакр. характар, але яго намер зрабіць уступкі сялянству сустрэў супраціўленне шляхты, што звузіла сац. базу паўстання. 29-30.09.1794 К. разам са сваім сакратаром Ю. Нямцэвічам прыязджаў у Гародню. У бітве каля Мацеёвіц 10. 10.1794 К. цяжка паранены, трапіў у палон і зняволены ў Петрапаўлаўскую цвердзь. Пасля вызвалення (1796) выехаў у ЗША, у 1798 вярнуўся ў Еўропу. Памёр у Швейцарыі. Парэшткі К. перапахаваны ў Кракаве. У гонар К. пад Кракавам насыпаны курган, яму пастаўлены помнікі ў Польшчы, ЗША, Швейцарыі, яго імем названа самая высокая гара ў Аўстраліі, адна з акруг штата Індыяна, горад у штаце Місісіпі, астравы на Алясцы (ЗША). Музей К. існуе ў Салюры (Швейцарыя). Імем Касцюшкі названы вуліцы ў Гародні, Берасці, Косаве, Лідзе; у Гародні і Косаве ўстаноўлены мемарыяльныя знакі. У Мерачоўшчыне адноўлена сядзіба Касцюшкаў, ідзе праца па адкрыцці музея і ўстаноўцы мемарыяльнага знака.

Касцюшка нацыянальны герой Беларусі, Польшчы, ЗША, ганаровы грамадзянін Францыі.



**Рох III: беларускі шляхочы герб роду Касцюшкаў**

*Таццяна Шамякіна*

# УСПАМІНЫ ПРА БАЦЬКУ

Апошнім часам я рыхтавала да друку дзённікі Івана Шамякіна за 1998 год. Надзвычай цяжкі перыяд у жыцці бацькі, калі цяжка хварэла і памерла мая маці. Таму запісы даволі змрочныя. Але Шамякін мог быць і іншы. Увогуле, ён на працягу жыцця мяняўся, відаць, не адзін раз, як, зрэшты, і кожны чалавек. І я, назіраючы перамены ў ім, часта разважала: што ў бацьку закладзена генетычна, што абумоўлена ўзростам, а што – пераменамі ў грамадстве, абставінамі самога жыцця. Высвятленне дэтэрмінізму творчасці, бадай, самае цікавае ў дачыненні да кожнага з мастакоў.

Нядаўна, калі мне было 55 гадоў, я папрасіла тату напісаць пра мяне – яго ўласнае ўражанне, пісьменніцкае ўспрыняцце дачкі. Ён адгукнуўся ахвотна і напісаў надзвычай цёпла, але... Я здзівілася, як жа мала ён памятае пра маё маленства, юнацтва, ды і тое, што напісаў, аказваецца, распытаў у майго мужа. Але што я... У дзённіках ён неаднаразова з болем успамінае сына Сашу, які памёр у 1991 годзе. Гэта трагічная мяжа ў жыцці бацькоў. Лепш сказаць: жыццё было пры ім, пры Сашы, без яго – існаванне... А між тым Шамякін нідзе не напісаў пра Сашу, не ўвасобіў яго характар – даволі цікавы. Увогуле усе вобразы маладых герояў у вядомых творах І. Шамякіна – "Сэрцы на далоні", "Снежных зімах" – зусім не мы, яго дзеці, нават блізка не мы, а поўнасцю выдуманыя персанажы.

У тым жа 1998 годзе пісьменнік раптам захапіўся апавяданнямі для дзяцей, вырашыў стварыць кніжку. Лёгка напісалася пра ўласнае маленства, з цяжкасцю ўспомніў некалькі эпізодаў з дзяцінства ўнучкі Машы, маёй дачкі, ды і тое, мяркую, тыя эпізоды яму нагадалі сястра Алеся і яе муж Сяргей, якія з бацькам жылі. А вось пра наша з Сашам, сястрой Лінай дзяцінства яны не маглі ведаць – Алеся самая малодшая. Сам жа бацька не ўспомніў нічога...

Дзіўны факт, фенаменальны – таму што тата ён быў добры, часта вазіў нас – сам за рулём – па рэспубліцы, у прыгожыя мясціны, на курорты, мяне неаднойчы браў з сабою ў Маскву. Але не памятаў дэталі падарожжаў, якія тычыліся менавіта дзяцей. І гэта не старэчы склероз – Шамякін якраз захаваў цудоўную памяць: выдатна памятаў факты ўласнага жыцця, сустрэчы з многімі людзьмі, усё прачытанае. Ды я і даўней ў ім заўважала: яму было нецікава наша, дзяцей, унутранае жыццё. Не магла зразумець такога раўнадушша, няўменне бачыць сутнасць характараў родных людзей. Сёння разумею: ён быў настолькі блізкі душою з мамай, настолькі яны разумелі адзін аднаго і знаходзілі радасць у гутарках паміж сабою, што гэтага хапала. Урэшце, не толькі сапраўднае каханне у чалавека можа быць адно, але і сапраўднае сяброўства таксама. А маці для яго была не толькі жонкай, але і самым блізкім сябрам. Тым больш, што да 1982 года быў яшчэ і Андрэй Макаёнак. У іх практычна кожны дзень знаходзіліся тэмы для размоў. На іншых ужо проста не хапала часу і душэўных сіл. І толькі ў 80-я гады Шамякін са здзіўленнем адкрыў, што ўласныя дзеці незаўважна выраслі і часта гавораць даволі цікавыя рэчы. Ён любіў, калі мы ўсе разам сустракаліся на святы, спрачаліся. Але ўсё гэта практычна ніяк не адбілася ў яго творчасці. Ці, можа, адбілася ўскосна (гэта неабходна спецыяльна даследаваць). Сабе я прыпісваю толькі адзіны ўплыў на бацьку: пастаянна пераконвала яго, што яму выдатна ўдаецца мемуарная проза. Пасля маіх угавораў ён пачаў рэгулярна весці дзённік, у канцы 90-х гадоў напісаў пранікнёную аповесць "Слаўся, Марыя!", надзвычай цікавы цыкл "Начныя ўспаміны". Але ўсё гэта можа быць зусім і не маім уплывам, а логікай уласнага творчага развіцця. Акрамя таго, аднойчы пры мне яму пра тое ж – пра неабходнасць пісаць мемуары – гаварыў Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў, якога Шамякін глыбока паважаў. Увогуле, калегі па пяру заўсёды былі для яго большым аўтарытэтам, чым уласныя дзеці. Я шмат разоў распавядала яму пра цікавыя жыццёвыя сюжэты, пра прачытанае, выказвала ўласныя ідэі. Прытым, што некаторыя мае прадказанні, асабліва ў палітыцы, як ні дзіўна, спраўджваліся. Але ўсё гэта ў вельмі невялікай ступені пайшло ў творчы кацёл пісьменніка. Відавочна, свае мазгі іншаму не ўкладзеш: кожны творца развіваецца паводле сваіх уласных законаў.

У творчасці Іван Шамякін заўсёды зыходзіў з жыццёвай сітуацыі, таму пастаянна шукаў сюжэты. Знойдзены сюжэт – часта рэальны – напаўняў персанажамі, якіх канструяваў з самых розных, так бы мовіць, элементаў. Што тычыцца мужчынскіх характараў, тут важны рэзервуар – сябры Віталь Вольскі (яшчэ з вайны) і Андрэй Макаёнак, жаночых – уласная жонка. Сапраўды, гэта былі характары настолькі шматгранныя, што з іх можна было



*Іван Шамякін з дачкой Таццянай. 1971 г.*

чэрпаць бясконца. Відаць, была тут своеасаблівая, можа, нават неўсвядомленая, пісьменніцкая гульня: маючы перад унутраным зрокам адных і тых жа людзей, памяшчаць іх у розныя жыццёвыя абставіны. Акрамя таго, існаваў аўтапрататып – сябе пісаў таксама практычна ў кожным творы, увасабляючы ў тым ці іншым персанажы часам усяго толькі нейкую адну сваю рысу...

Шмат якія творы І. Шамякіна экранізаваныя. Ён умеў быць аб'ектыўны і ўхваляў ігру многіх акцёраў, хоць ясна, што ўяўляў ён сваіх герояў іншымі. Асабліва яму падабаўся Уладзімір Гасцюхін у ролі Івана Батрака ў пастаўленай Міхаілам Пташуком кінастужцы паводле рамана "Вазьму твой боль". Пісьменнік гаварыў, што сам менавіта так пачаў бачыць свой персанаж, як яго ўвасобіў Гасцюхін.

Увогуле, Шамякін быў надзвычай талерантны чалавек, цярпімы да чужых густаў, поглядаў. Гэта не азначае, што ён не меў уласнай думкі, але яму было дастаткова выказваць яе пісьмова, у творах, таму спрачацца вусна ён не любіў. Часта назірала: Андрэй Макаёнак нешта даводзіў яму, як заўсёды, горача і пафасна – Шамякін маўчаў. А калі сябра адыходзіў, бацька пра тое ж гаварыў зусім іншае. "Чаму ж ты самому Андрэю Ягоравічу пра гэта не сказаў?" – са здзіўленнем пыталі мы яго. – "Не хацеў крыўдзіць".

Не хацеў ён крыўдзіць сябра і тады, калі неабходна было прама і шчыра сказаць яму пра яго выбар другой жонкі – выбар, што стаў для Андрэя Ягоравіча смяротным прыгаворам. Шмат разоў бацька хацеў выказаць сваю думку, але баяўся, што Андрэй зменіцца ў адносінах да яго, пачне горш ставіцца... І ў выніку страціў сябра назаўсёды... Шамякін усведамляў сваю слабасць, але так і не здолеў пераадолець гэта ў сабе да канца жыцця – не гаварыў у вочы чалавеку непрыемнае. А вось у дзённіку пісаў смела, прама, шчыра. Не толькі пра чыноўнікаў, пра калег – і пра сябе: пра сваю баязлівасць, скупасць, эгаізм... Часам ён бязлітасны да сябе – яўна перабольшвае, часам не заўважае ва ўласным характары таго, што бачна іншым. Але ва ўсім, што пісаў, заўсёды да канца праўдзівы.

Характэрна, што перажыўшы смерць сына і страту ўсіх грошай, якія ён так старанна збіраў, Шамякін набыў неўласцівыя яму – такому абачліваму – рысы бесшабашнасці: "А, усё ўжо ўсё роўна!" З'явілася расчараванне ў шмат чым – нават ва ўласным жыццёвым прызначэнні. Пісаць вельмі хацелася – практычна да канца жыцця, але часта думаў і мне гаварыў: "А навошта? Каму нашы раманы, аповесці патрэбныя?" Між тым я і сёння сустракаю нямала людзей, якія з любасцю ўспамінаюць творы Шамякіна. Вельмі многія з чытачоў прызнаваліся, што Шамякін – адзіны з беларускіх пісьменнікаў, творы якога дачытвалі заўсёды да канца або яго толькі аднаго і чыталі. Не раз я чула пра Шамякіна-пісьменніка такія высокія словы, якія мне самой ніколі б у галаву не прыйшлі. І таму нярэдка ўсплывае думка: "А можа ў нас, блізкіх, той жа сіндром, відаць, нацыянальны, што быў і ў бацькі: ён не бачыў цікавае ў родных, дзецях, а мы не цэнім яго так, як цэняць чужыя людзі?"

Пасля смерці мамы тата пастаянна скардзіўся на адзіноту, неразуменне, пустэчу ў жыцці. Не раз гаварыў і пра смерць. Я імкнулася супакойваць яго з дапамогай самых розных аптымістычных звестак з навукі і рэлігіі. Дзіўна: гэта не падабалася яму, нават выклікала раздражненне. Але што ж неабходна было гаварыць: згаджацца з ім, што так, ты хутка памрэш, і гэта будзе абсалютны канец ва ўсім?! Так жа нельга!

Я бачыла і тое, што яму, атэісту, хацелася верыць у пасмяротнае існаванне. Хацелася моцна... Але верыць ён не мог! Калі я, спасылаючыся на Платона, на іншых філосафаў, тэолагаў, на дасягненні сучаснай навукі, распавядала пра жыццё душы ў іншасвеце, Шамякін пазіраў на мяне нязменна іранічна і скептычна. Мне нават здавалася, што яму не раз карцела сказаць: "Як ты, адукаваная жанчына, можаш верыць у такое?", і толькі яго заўсёдная далікатнасць не дазваляла пакрыўдзіць мяне. І ўсё ж я, кожны раз ідучы да яго ў бальніцу, шукала ўсё новыя і новыя аргументы. Цяжка было назіраць паступовае змяншэнне цікавасці да ўсяго, што раней так глыбока яго хвалявала. Я разумела, што гэта непазбежна і чакае ўсіх: на парозе вечнасці ўсё часовае здаецца нікчэмнай драбязой. І ўсё ж пра лёс Беларусі, пра лёс Саюза пісьменнікаў ён думаў да канца. І ў гэтым увесь Шамякін: не мяшчанская душа, не індывідуаліст, а чалавек, заўсёды заклапочаны грамадскімі праблемамі. Гэта, магчыма, лепшае, што прывіў людзям савецкі лад. А Шамякін быў, бясспрэчна, савецкі чалавек. У камуністычных кіраўніках ён расчараваўся і, як вядома, пасля 1991 года не стаў аднаўляцца ні ў адной з камуністычных партый, але савецкім чалавекам сябе лічыў. Верыў у сацыялізм і ў народ.

І калег сваіх вельмі любіў – менавіта як людзей, ды і крытык іх твораў быў добразычлівы. Часам у дзённіках ён пра некаторых выказваецца з асуджэннем, з неразуменнем. А ўсё ж колькі ў яго дзённіках замілавання і любові ў размове пра чалавечыя якасці калег-пісьменнікаў і пра іх творчыя дасягненні! Я ўпэўнена, што гэта развілося ў ім падчас шматгадовай працы ў Саюзе пісьменнікаў: чалавек, які меў звычку пастаянна пра некага клапаціцца (адных кватэр "выбіў" не менш 200!), урэшце заўсёды пачынае любіць аб'ект сваіх клопатаў. І калі Шамякіна пазбавілі працы спачатку ў Саюзе пісьменнікаў, пасля ў Беларускай Энцыклапедыі, ён, прымаючы па-філасофску (што ж, узрост!), глыбока пакутаваў менавіта ад гэтага: што не можа праяўляць клопат, турбавацца пра іншых. Менавіта тады ён скіраваў павышаную ўвагу на сям'ю, пачаў у дробязях хвалявацца пра дзяцей, унукаў... Ды толькі нам гэта ўжо не патрэбна было, мы лічылі сябе разумнейшымі за бацькоў... А яму неабходна было нечым запоўніць жыццё.

Між тым я памятаю часы, каля яно, бацькава жыццё, было запоўнена да краю – працай, шматлікімі сустрэчамі, паездкамі. Памятаю моманты душэўнага пад'ёму, жывога актыўнага ўспрыняцця людзей, усведамлення сваёй творчай сілы. Памятаю, якім ён выходзіў з кабінета, калі пісалася плённа. Памятаю шматлікіх гасцей у нашым доме – практычна кожны дзень; іх гутаркі, спрэчкі, пастаянныя анекдоты, смех. Якія людзі ў нас былі: і беларускія пісьменнікі, і ўкраінскія, і рускія, і нават з зусім далёкіх краёў: з Сібіры, Сярэдняй Азіі, Кітая! Беларусы надзвычай гасцінныя, і праўленне Саюза пісьменнікаў СССР любіла праводзіць менавіта ў Мінску розныя пленумы, круглыя сталы, канферэнцыі. Пасля пасяджэнняў гасцей заўсёды разбіралі па кватэрах кіраўнікі Саюза беларускіх пісьменнікаў, вось я і нагледзелася на, скажу шчыра, выдатных прадстаўнікоў савецкай культуры. І хоць бачыла я іх пераважна ў хатняй абстаноўцы, значыць, як бы пасярод быту, але з кожным разам мая павага да іх расла. Так, усе людзі розныя, і пісьменнікі таксама не пазбаўлены чалавечых недахопаў. А ўсё ж – незвычайныя асобы! Чаму, не ведаю, я з дзяцінства бачыла іх выключную чалавечую абаяльнасць, фіксавалы шматлікія і арыгінальныя прыкметы таленту: нехта цудоўны апавядальнік, нехта прыгожа спявае, нехта паказвае фокусы... У пісьменніках таго часу – 50-70-х гадоў – мне асабліва падабалася іх бадзёрасць, жыццялюбства, аптымізм, шмат хто вызначаўся выключнай дасціпнасцю, багаццем мовы, а яшчэ – тактоўнасцю, інтэлігентнасцю. Такім быў і бацька.

І ўспамінаючы сёння гэтых людзей, я веру ў адраджэнне грамадскай цікавасці да літаратуры. Іх талент, усе іх творчыя знаходкі яшчэ будуць запатрабаваныя! Народзяцца гурманы да метафар! Псіхалогія чалавека – найважнейшая навука XXI ст. – будзе вывучацца выключна паводле мастацкіх твораў; студэнты будуць разбіраць тысячы жыццёвых сітуацый, апісаных у літаратуры, і з іх дапамогай спазнаваць чалавека – самае складанае, што ёсць у Сусвеце. Будуць і іншыя формы запатрабавання прыгожага пісьменства, магчыма, нават і парадаксальныя, і зусім неўяўляльныя намі сёння... Але абавязкова будуць... І душа бацькі суцешыцца...

*15 студзеня 2006 г.*

# Справаздача

## пра вынікі працы Берасцейскай гарадской арганізацыі ГА "ТБ М імя Францішка Скарыны"

На сёння Берасцейская гарадская арганізацыя складаецца з 10 суполак, склад якіх за справаздачны перыяд мяняўся, аднак неістотна. Найперш гэта было звязана са студэнцкай суполкай, частка сяброў якой закончыла універсітэт. Суполка зараз папоўнілася новымі сябрамі, студэнтамі І і ІІ курсаў.

Адбыліся таксама змены ў суполцы "Берасце", якая налічвала 25 чалавек. Дзеля лепшай арганізацыі працы вырашана рэарганізаваць тэгую суполку: з яе ў асобную суполку выдзеліліся сябры – выкладчыкі грамадскіх навук Берасцейскага дзяржаўнага універсітэта. Перасталі існаваць суполка ў СШ № 35, якую узначальвала Дуброўская Наталля Мікалаеўна. Гэта звязана найперш з пераходам Наталлі Мікалаеўны на працу ў абласны ліцэй. Зараз Наталля Мікалаеўна стварыла і ўзначальвае суполку, у склад якой уваходзяць настаўнікі беларускай мовы і літаратуры г. Берасця. Колькасна нашая арганізацыя амаль не павялічылася. Трэба зазначыць, што Рада не ставіла першачарговай мэтай пашырэнне і рост колькасці сяброў, аднак заўсёды вітала новых сяброў ТБМ і прыхільнікаў роднай мовы, іх удзел у дзейнасці арганізацыі. Думаю, што ўсё ж у перспектыве Берасцейская гарадская арганізацыя здольная вырасці і колькасна, і якасна.

Рада Берасцейскай гарадской арганізацыі збіралася па меры неабходнасці, але трэба сказаць, што за мінулыя два гады яе праца не была арганізаваная на патрэбным узроўні, які забяспечыў бы скаардынаваную дзейнасць усіх суполак. На гэта былі аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны. Пэўным чынам у актывізацыі працы нашай арганізацыі нам дапамагала Рэспубліканская Рада, яе Сакратарыят. Старшыні суполак мелі сувязь з Рэспубліканскай Радай праз лісты, допісы сяброў Сакратарыяту. Дзякуй ім за гэта.

Праца Берасцейскай гарадской арганізацыі вялася на некалькіх кірунках:

- культурна-асветніцкая праца.

Сябры ТБМ актыўна ўдзельнічалі ў арганізацыі правядзенні цікавых творчых сустрэчаў вечарынаў. Сярод іх варта прыгадаць сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі – Р. Барадуліным, Г. Бураўкіным, Н. Гілевічам, Л. Дранько- Майсюком, рэдкалегіяй часопіса "Дзеяслоў" і інш.

Варта ўзгадаць і імпрэзу, прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы (2005 г.), якую арганізавалі і правялі актыўныя сябры студэнцкай суполкі. Пэўна, склад сябраў нашай арганізацыі вызначае і спецыфіку яе дзейнасці. Сярод іх – вядомыя ў рэспубліцы выкладчыкі роднай мовы і літаратуры, напружаная навуковая дзейнасць якіх спалучаецца з грамадскай дзейнасцю. Сёння хачу выказаць шчырую ўдзячнасць пастаянным удзельнікам і арганізатарам шматлікіх імпрэзаў, што адбыліся з удзелам В. Я. Зарэцкай, М.І. Мішчанчука, З. П. Мельнікавай. Н. М. Борсук, У. А. Сенькаўца, М. Н. Аляхновіча, С. А. Вороніна і інш. хочацца адзначыць і дзейнасць і сяброў ТБМ – супрацоўнікаў абласной бібліятэкі, найперш Г.І. Бурынай. Колькасна невялікая суполка пра абласной бібліятэцы вяла і вядзе актыўную культурную асветніцкую працу сярод моладзі. За справаздачны перыяд сябры гэтай суполкі сталі ініцыятарамі і арганізатарамі шматлікіх творчых сустрэчаў з цікавымі людзьмі Беларусі. Так, адбылася прэзентацыя кнігі А. Паплаўскага "Тэрыторыя скразнякоў", прэзентацыя кампакт-дыска гурта "Граеўка", сустрэча з Барысам Пятровічам, Эдуардам Акуліным, Міхасём Скоблам, сустрэча з мастаком-эмальерам Міколам Кузьмічом і іншыя сустрэчы. Былі падрыхтаваны і цікавыя выставы : "Ефрасіння ўсяе Беларусі" "Беларусь і свет", "Беларусь: партрэт на фоне перамен". "Зямлі бацькоўскай прыцягненне" ды інш. і надалей, думаецца, разам з выкладчыцкім і моладзевымі суполкамі варта ладзіць гарадскія вечарыны такога высокага ўзроўню, як гэта было зроблена да 80-годдзя з дня нараджэння У. Калесніка. Варта актывізаваць таленавітую моладзь.

У справаздачны перыяд сябры ТБМ удзельнічалі ў зборы подпісаў у абарону сядзібы ТБМ у Менску, у абарону беларускай мовы ў СМІ, у прыватнасці на тэлебачанні. Былі дасланы лісты ў Канстытуцыйны суд і Тэлерадыёкампанію. Праведзены збор попісаў на імя пасла ФРГ у Беларусі з патрабаваннем ад радыёстанцыі "Нямецкая хваля" вяшчання на беларускай мове.

Была праведзена праца і ў плане вывучэння візуальнага афармлення г. Берасця.

Сябры ТБМ склалі своеасаблівы спіс шыльдаў, рэкламы. Былі накіраваны адпаведныя лісты гарадскому кіраўніцтву. Варта актывізаваць працу ў гэтым кірунку, у тым ліку наладзіць дыялог з новым кіраўніцтвам. Сёння, на жаль, горад Берасце цяжка назваць паводле візуальнага афармлення беларускім горадам. Выклікае трывогу той факт, што апошнім часам пашыраецца тэндэнцыя да ўжывання надпісаў на розных мовах, але толькі не на беларускай. Прыгожым выключэннем з гэтага можна назваць "Гасціны двор" па вуліцы Савецкай. Варта актывізаваць далейшую працу з уладамі, з кіраўнікамі фірмаў, прадпрыемстваў. Трэба аднавіць дыялог з тралейбусным дэпо і аўтапаркам, працу па беларусізацыі якіх распачаў у свой час В.Д. Губарэвіч.

Праца ў сферы адукацыі. На сёння ў г. Берасці няма ніводнай беларускамоўнай школы. Я не прыхільніца стварэння асобных класаў. Жыццём першых беларускмоўных класаў займалася ў свой час Ніна Міхалаўна Чарамовіч, яна можа падзяліцца сваім досведам. Сёння, думаецца, варта актывізаваць працу ў гэтай сферы, каб падтрымаць Нацыянальную мастацкую гімназію, адзіную на сёння беларускамоўную ўстанову ў Берасці. Вядома, што там ёсць праблемы з ажыццяўленнем навучальнага працэсу на беларускай мове. Варта распачаць працу па стварэнні беларускамоўнага ліцэя ці гімназіі. Тут патрэбна разуменне і падтрымка з боку органаў адукацыі.

Вядома, што ёсць і праблемы з забеспячэннем выкладання ўсіх прадметаў па–беларуску і на філалагічным факультэце. Думаецца, што гэтая праблема можа быць вырашана нашымі агульнымі намаганнямі.

Праца са сродкамі масавай інфармацыі. Наша арганізацыя не мае свайго выдання, аднак ёсць "Наша слова", "Новы час", таму бачу ў гэтым плане наступныя крокі:

1) Трэба актывізаваць падпіску на гэтыя беларускамоўныя выданні. Каб такім чынам пашыраць інфармацыю па гісторыю, культуру, мову сярод моладзі. На жаль, падпіска сярод сяброў ТБМ у Берасці невысокая;

2) Варта выкарыстоўваць іншыя газеты, якія выходзяць у Берасці, даваць у гэтыя выданні інфармацыю па разнастайных праблемах роднае мовы, культуры, гісторыі. Тут варта адзначыць актыўную пазіцыю В.Я. Зарэцкай, якая адгукаецца на дыскусійныя артыкулы ў друку, у прыватнасці у "Народнай трыбуне".

3) Варта стварыць і сярод студэнтаў цікаўленае кола "журналістаў", што паспрыяла б актывізацыі іх дзейнасці.

За справаздачны перыяд сябры ТБМ далучыліся да выдання бюлетэняў да памятных датаў з гісторыі і культуры Беларусі. Суполка з ГА "Стары горад" быў выдадзены "Альпенскі слоўнік", "Ілія на Палессі" В. Адважнага.

*М. Новік.*

*Рэха*

# Каб слова наша справай адгукнулася, стукайма!

У апошнім, 50-м нумары "Нашага слова" за мінулы год, быў надрукаваны артыкул "Пераліцоўка пад чужы капыл – недарэчная пераліцоўка", у ім вялася размова аб тым, як у Слуцкім аўтапарку № 2 пасля "Дажынак – 2005 " на ўсіх гарадскіх аўтобусах, а іх не адзін дзесятак, беларускамоўныя ўказальнікі маршрутаў замянілі на рускамоўныя. Гэтая акцыя, нажаль, не выклікала абурэння пасажыраў, якім у большасці не ў навінку бачыць, як мяняюць, каму ўздумаецца, шыльды пад чужы капыл на дзяржаўных установах, магазінах, прыватных майстэрнях і кавярнях пры абыякавасці і маўклівай згодзе не толькі іх работнікў, а і наведвальнікаў. Што ж, выцясненне роднай мовы з ужытку за восем дзесяткаў гадоў пры саветах дарам не прайшло – у масах знікла пачуццё нацыянальнай годнасці, з'явілася маса "тутэйшых", у прыклад малапісьменнаму Зносаку з вядомай Купалаўскай драмы, людзей з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй.

На гэты раз слова друкаванае ў абарону роднай мовы на маршрутных указальніках справай адгукнулася пасля Новага году аўтобусам вярнулі ранейшыя шыльдачкі, беларускамоўныя! Можаце ўявіць радасць аўтара артыкула, калі ён яшчэ раз пераканаўся, што нашы высілкі у гэтай важнай справе, калі яны пераадольваюць страх, малавер'е, абыякавасць, прыносяць плён. Калі стукаць, званіць, напамінаць, пераконваць – нехта, глядзіш, і адчыніць душу, успомніць, што ён беларус, а не нейкі зацюканы гадамі няволі прасталюдзін.

Спашлюся на нядаўні прыклад. Звярнуў увагу на абноўлены, пад свята ўраджаю двухпавярховы будынак дзяржаўнага архіву – аднаго з нямногіх, ацалелых з мінулай вайны.

Фасад яго з боку вуліцы Леніна капітальна адрэстаўравалі, навялі яркі глянец. А шыльды ранейшай беларускамоўнай, што глядзелася са сцяны ўсе пасляваенныя гады, не стала: на тое месца павесілі рускамоўную: "Учреждение. Зональный государственный архив". Ну проста копія часоў цара Мікалая II. Адгукваецца жанчына, яна разумее чым я засмучаны і адказвае, што тую, ранейшую шыльду рабочыя, якія вялі рэстаўрацыю будынка (а гэта былі людзі прыезджыя) проста скінулі да долу, і яна раскалолася.

Назву новай шыльдзе далі не раздумваючы доўга – рускамоўную з падкрэслена расейскім "Учреждение". Але фінал нашай размовы быў памяркоўным: дырэктар паабяцала, што ў бліжэйшы час пастараецца заказаць шыльду на дзвюх дзяржаўных мовах. Што ж, хоць такі варыянт будзе напамінаць аб існасці роднай мовы.

Трапіла ў нялюбасць кіраўнікоў гарадской ЖКГ і старажытнае народнае слова "Лазня". Усе пасляваенныя гады шыльда з такой назвай вісела перад уваходам у стары будынак лазні, які пры рэканструкцыі цэнтральнай часткі горада былі знесены, таму што не ўпісваўся ў генеральны план яе. Непадалёку будаўнікі з Маладзечна за адпушчаныя з бюджэту аблвыканкама 4,5 мільярды рублёў узвялі шыкоўны двухпавярховы будынак разлічаны на адначасовае наведванне 200 чалавек, мужчын і жанчын, з трыма парнымі, медкабінетам, душавымі, буфетам.

Напрыканцы старога году лазню адкрылі, толькі над уваходам шматлікія наведвальнікі ўбачылі новую шыльду, не нашынскую – "Баня". Ніхто, як я заўважыў пры адкрыцці яе нават словам не абмовіўся у знак нязгоды – быццам так і трэба. А праз тыдзень нехта палічыў, што назва гэта ўстарэла(?) – і над уваходам паявілася новая шыльда: "Банно-оздоровительный комплекс". Калі б па-беларуску напісалі – не было б напэўна і прэтэнзій. Дык не ж – спрацавала старая, савецкіх часоў, чыноўніцкая арыентацыя на чужы капыл!

Абыякавасць праяўляюць не толькі чыноўнікі ды пенсіянеры, у якіх, як кажуць, у крыві прыхільнасць да няроднага.

Маўчыць моладзь, асабліва тая, што вырасла, сфармавалася ў поглядах за апошнія адзінаццаць гадоў, калі усе, за рэдкім выключэннем, СМІ сталі дзяржаўнымі і ўжо дамагліся таго, што выгадна ўладзе. Сёння занядбанне роднага слова стала гэткім склярозам, калі ўсё беларускае лічыцца нейкім чужым, прыблудным, без чаго можна абыйсціся. У гэтым лішні раз пераканаўся ў першы дзень "Дажынак-2005", калі раніцай, гадзін у дзевяць, на шырокай сцэне-памосце, узведзенай перад уваходам у гарадскі Дом культуры, выступаў таленавіты моладзевы калектыў мастацкай самадзейнасці з г. Жодзіна. Усе яго ўдзельнікі, іх было чалавек дваццаць, выйшлі ў яркіх нацыянальных строях, маладыя, прыгожыя, якіх мы не часта бачым на дзяржаўным тэлебачанні. Як хораша яны спявалі беларускія народныя і эстрадныя песні. А колькі вытанчанасці імпэту было ў іх агністых танцах – не перадаць словамі! І што вы думаеце? Паглядзець на гэты ансамбль прыйшло (у цэнтры горада, за сто метраў ад цэнтральнай плошчы, дзе павінна была ладзіцца святочная урачыстасць) ... трое мужчын-пенсіянераў. І толькі! Міма праходзілі сотні маладых людзей і пажылых, якія кіраваліся да той плошчы. І ніхто не звяртаў ўвагі на таленавітых жодзінскіх гасцей – быццам і не было на сцэне нікога! Некалькі разоў з нас, тройкі, праходжыя, маладыя людзі кпілі: "Чево вы тут стаите? Идемте встречать президента. Вот-вот должен приехать". але мы не слухаліся і яшчэ з паўгадзіны мелі радасць і асалоду ад ўбачанага і пачутага. Жодзінцаў замяніў сімфанічны ансамбль з Менска, чалавек дванаццаць, яны выконвалі творы Баха. Моцарта, Шуберта. Але іх ніхто не слухаў, бо якраз да плошчы пад'ехаў прэзідэнцкі картэж.

Яшчэ адзін наш галаўны боль – абрусенне вёскі, слуцкай у тым ліку. Часцяком у нядзелю наведваю гарадскі рынак, які з нядаўняга часу называецца па-нашаскаму –" Слуцкі кірмаш".

Хаджу міма гандляроў, што прыехалі з вёсак, з гароднінай, садавіной, збожжам, птушкай, малочнымі прадуктамі. Гэта пераважна пенсіянеры. Рэдка – маладыя жанчыны. Дзеля цікавасці пачынаю з імі весці "торг" – каб паслухаць, на якой мове яны размаўляюць, стараюся сам гаварыць па-беларуску. Амаль спрэс у адказ чую, часцей ад мужчын, ніякаватую рускую мову. Ад жанчын – таксама, або "трасянку". Тое самае пачуў і ад сваіх землякоў з вёскі, дзе прайшло маё дзяцінства: з дванаццаці апытаных пенсіянераў (іх столькі засталося ўсяго) ніхто не адказваў на мае пытанні на мове маіх бацькоў, дзядулі і бабулі. З пяці так званых "прыезджых", болей маладых, ні адзін не размаўляе на роднай мове. Як і іх дзеці. Ды што тут гаварыць, калі ў вёсцы па тэлевізары ідуць толькі рускамоўныя дзяржаўныя праграмы БТ і АНТ. Абедзьве на рускай мове. Вяскоўцаў у абавязковым парадку прымушаюць падпісвацца на дзяржаўныя газеты. Я жахнуўся, калі ў аддзеле падпіскі на перыядычныя выданні даведаўся, што па раёне (без горада) дзе жыве звыш 36 тысяч чалавек, у мінулым годзе газету "Наша слова" не выпісваў ні адзін чалавек! Ні адзін настаўнік з 32 сярэдніх і базавых беларускамоўных школаў! А гэта ўжо прыкмета той цемнаты, шэрасці, "тутэйшасці", аб якіх з трывогай і болем душэўным пісаў у друку вядомы беларускі пісьменнік-дэмакрат Язэп Лёсік вясной 1917 года пасля наведвання першага з'езду настаўнікаў Меншчыны. А мы ж уступілі ўжо ў XXI стагоддзе.

*Мікола Кутнявецкі, Слуцк.*

# Поспех будзе, калі каардынаваць работу

*Старшыня Гродзенскай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Аляксандр Місцюкевіч, падводзячы вынікі работы сваёй арганізацыі ў мінулым годзе падкрэсліў:*

— Працавалі згодна з патрабаваннямі Статута і зацверджанага плана работы. Найперш адзначу, што работа вялася пры цесным узаемадзеянні з Гарадзенскім гарадскім аддзяленнем ТБШ (старшыня Таццяна Канопкіна), гісторыка-культурным клубам "Паходня" (Мікалай Таранда), Гарадзенскім гарадскім і раённым аб'яднаннямі "ТБМ імя Ф. Скарыны" (Іван Буднік, Аляксей Пяткевіч), ГА ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл Га-роднт (Мікалай Мельнікаў) і ншымі.

**— Якія мерапрыем0ствы найбольш увайшлі ў практыку работы?**

— Традыцыйна прымаем удзел у віншаванні пераможцаў абласной алімпіяды па беларускай мове. Ад імя абласнога ГА ТБМ імя Ф.Скарыны уручаны 30 кніг такіх аўтараў, як В. Быкаў, В. Іпатава.

**— Абласная газета "Гродзенская праўда" у нумары за 24 студзеня змясціла нататку "Беларуская мова ў гродзенскім тралейбусе". Ведаю, што сябры ТБМ прыклалі шмат намаганняў, каб дамагчыся гэтага...**

— Напачатку быў арганізаваны збор подпісаў сярод грамадзян Гародні з просьбай рабіць аб'яву прыпынкаў па-беларуску. Пазней адбылася сустрэча з кіраўніцтвам тралейбуснага ўпраўлення і аўтапарку, а таксама з супрацоўнікамі транспартнага аддзела гарвыканкама. Мела размову з намеснікам старшыні аблвыканкама В.М. Лявонавым. Мы паўтарылі сваю просьбу: рабіць аб'явы на тралейбусных і аўтобусных прыпынках па-беларуску, мець на роднай мове надпісы, пашырыць беларускамоўнае школьніцтва і г. д. Паразуменне ў размове было знойдзена. Справа кранулася з месца.

І тым не менш, з канца кастрычніка 2005 года на двух тралейбусах на кожным з 10 маршрутаў аб'явы загучалі на роднай мове. Цяпер практыка пашырылася, як паведамляе газета, на 10 тралейбусаў у абласным цэнтры.

**— Аўтобусны парк таксама добразычліва паставіўся да прапаноў актывістаў ТБМ, грамадзян горада, якія паставілі свой подпіс пад патрабаваннем?**

— Шчыра кажучы, кіраўніцтва аўтапарку не спяшаецца зрабіць крокі насустрач нам. Мы зрабілі запіс аб'яў па-беларуску таксама і для аўтобуснага парку. Нас запэўнілі, што аб'явы па-беларуску будуць рабіць кіроўцы 14 аўтобусаў, пачынаючы з лютага 2006 года. Аднак аўтобусных маршрутаў у Гародні 34.

Праязныя білеты, маю на ўвазе месячныя і дэкадныя, таксама з лютага будуць распаўсюджвацца ў беларускамоўным варыянце. Паведамленне пра гэта прагучала на мясцовым тэлебачанні, як было ўдакладнена "па просьбе грамадян і грамадскіх арганізацый".

**— Ёсць кіраўнікі не толькі аўтатранспартных' арганізацый, якія добразычліва ставяцца да прапаноў і патрабаванняў ТБМ...**

— Адбыліся сустрэчы з кіраўнікамі банкаў Гародні. Гаворка вялася аб адкрыцці рахункаў грамадзянамі па-беларуску. У 404-м філіяле "Беларусбанка" пайшлі насустрач, дзякуючы кіраўніку Алегу Пятровічу Бягунову. На жаль, не ўсе кіраўнікі аказаліся на вышыні, паспяшаліся выконваць патрабаванні Канстытуцыі. Дарэчы, мы маем камп'ютарныя беларускамоўныя праграмы дагавораў (пенсійны, зарплата і г.д.). Але іншыя банкі не пагаджаюцца карыстацца імі ў паўсядзённай практыцы. Знаходзяць адгаворкі.

**— ТБМ імя Францішка Скарыны мае сваю газету "Наша слова". Кожны сябра ТБМ лічыць за гонар падпісацца на гэтае выданне. Добра было б пашырыць кола чытачоў...**

— Мы штогод актыўна арганізуем падпісную кампанію на гэтую газету. Так было і з падпіскай на другое паўгоддзе 2005 года, калі здолелі мець 53 падпісчыкаў. На першае паўгоддзе 2006 года прыхільнікамі роднага слова падпісана 50 асобнікаў.

Хачу сказаць вось аб чым. У першым паўгоддзі мінулага года мы распаўсюджвалі газету "Наша слова" па школах горада Гародні. На жаль, іншымі дырэктарамі было сказана, што не пажадана, каб мы дастаўлялі гэтага выданне ў іх школы.

**— Напачатку гутаркі Вы нагадалі,што актывізуеце сваю работу з грамадскімі аб'яднаннямі, якія стаяць на пазіцыях адраджэння і пашырэння ў грамадстве роднай мовы...**

— Так. Сёння дасягнуць поспеху можна толькі разам. Напрыклад, сумесна з Гарадзенскім гарадскім аддзяленнем ТБШ ладзіліся вечарыны, прысвечаныя 100-годдзю М.Васілька, 75-годдзю Ул.Караткевіча, 85-годдзю пісьменніка А. Карпюка. Разам будзем рыхтаваць мерапрыемствы і ў гэтым годзе. Напрыклад, 130-я ўгодкі з дня нараджэння выдатнай асветніцы, паэткі, грамадска-культурнай дзеячкі, педагога, выдаўца Цёткі, 80-годдзе ТБШ, 100-годдзе з дня выхаду газеты "Наша Ніва"...

Гутарыў *Антон Лабовіч*, *Гародня.*

# Каток у Лідскім замку



З надыходам сёлетняй зімы Лідскі замак набыў новае функцыянальнае прызначэнне. У старажытнай цвердзі залілі каток, які адразу стаў самым папулярным у горадзе. Спорткамітэт арганізаваў пракат канькоў, а на варотах замка адразу ж з'явіліся аб'явы з прапановамі канькі прадаць.

Хаця каток у Лідскім замку і не такая ўжо навіна, як можа падасца. Яшчэ перад вайной, пры міжваеннай Польшчы у замку заліваліся каткі. Археолаг Алег Трусаў, які вёў раскопкі ў замку распавядае, што падчас раскопак у замку знаходзілі канькі "снягуркі", якімі карысталіся ў тыя часы.

*Яраслаў Грынкевіч.*

Рада Віцебскай абласной арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" прыняла пастанову аб правядзенні **12 лютага 2006 года ў Віцебску** 5-й абласной справаздачна-выбарнай канферэнцыі. Даведкі па тэлефоне: **8-021-2-36-90-60.**

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Шаноўнае спадарства, ушкожнага, хто спазніўся падпісацца на нашую газету ёсць магчымасць зрабіць гэта цяпер і падпісацца на 4 месяцы (з красавіка па чэрвень).

Будзьце з намі, і вы будзеце ў цэнтры падзей, якія адбываюцца ва ўсім беларускамоўным спектры Беларусі і замежжа.

РП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

*НАША СЛОВА* (назва выдання) Колькасць камплектаў **1**

| На 2006 год па месяцах: | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | X | X | X | X | | | | | | |

Каму (прозвішча, ініцыялы)

Куды (адрас)

(паштовы індэкс)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

*НАША СЛОВА* (назва выдання)

Кошт: падпіскі 5080 руб.; пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

| На 2006 год па месяцах | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | X | X | X | X | | | | | | |

Каму (прозвішча.ініцыялы)

Куды (адрас)

(паштовы індэкс)




Алесь Петрашкевіч

# ВЫМУШАНАЯ АВАНТУРА

## Версія гістарычнай драмы. Час падзей 1600—1606 гг.

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**Фёдар** *(рашуча)*. Гэтаму не быць ні-ко-лі! *(Спыняецца каля крэсла-трона.)*

**Сапега.** А што тычыцца спрадвечных нашых княстваў Смаленскага і Северскага з трыма цвержамі, што належаць Полацку, то яны павінны быць нам вернуты.

**Фёдар.** Ні-ко-лі! *(Дэманстратыўна пакідае перамовы.)*

*Дваране думныя, баяры і дзякі натоўпам, але ціха суправаджаюць царэвіча.*

**Шуйскі.** Перамовы адносна саюза перапыняем і адновім іх не раней прызнання пасольствам за нашым гасударом тытула цара ўсяе Русі, а таксама права нашага на Лівонію і вотчыны нашыя ў Вялікім Княстве ад часоў князя Яраслава.

**Сапега.** Абмяркоўваць названыя прадметы вялікае пасольства не мае паўнамоцтваў.

**Тацішчаў** *(ускіпеўшы)*. Ты гаворыш няпраўду! Ты лжэш! Не лжы!..

**Сапега** *(спакойна)*. Сам ты лжэш, халоп неразумны, а я не прызвычаіўся мовіць няпраўду. Не ўмею так, як ты, круціць фартэлямі. Не са знакамітымі пасламі табе размаўляць, а з халопамі на стайні, ды і тыя размаўляюць больш прыстойна за цябе.

**Тацішчаў.** Я дакажу, што ты гаворыш няпраўду!

**Сапега** *(узрываецца)*. Паганы пёс, вялікую крыўду мне чыніш! Вінаваціш у падмане! Каб не шанаваў свайго караля і князя вашага *(да Галіцына і Шуйскага)*, вас, баяр значных, і самога сябе, здолеў бы гэтага смердзюка на пляцы правучыць. Але на волю старэйшага з вас *(звяртаецца да Шуйскага)* тое аддаю. А гэты лгун *(ківае на Тацішчава, які знікавеў ад адлупу)* прывык сам лгаць... і я не хачу з такім хамуйлам ні сядзець побач, ні размаўляць аб справах. Ці сустрэча з князем Барысам, ці пасольства вяртаецца дамоў! *(Дэманстратыўна пакідае перамоўшчыкаў.)*

### III

*Рабочы пакой караля. За пісьмовым сталом над паперамі Жыгімонт III у раскошным халаце. Уваходзіць Цырымонійімайстар.*

**Цырымоніймайстар** *(у паўголаса)*. Ваша каралеўская мосць, канцлер Леў Сапега...

*Дружалюбным кіўком кароль дае згоду на аўдыенцыю канцлера. Цырымоніймайстар выходзіць, Сапега ўваходзіць.*

**Сапега.** Ваша каралеўская вялікасць...

**Жыгімонт** *(нібы вельмі незадаволена)*. Змучыў ты, проста даняў маю каралеўскую вялікасць. Неверагодна, каб каралю паўгода чакаць свае вялікае пасольства?! *(Устае з-за стала.)* Але найперш з цябе, паланёнага пасла, усё ж абдыму. *(Абдымае Сапегу.)* Сядай, Леў, адпачывай з дарогі. *(Садзіцца ў крэсла перад невысокім столікам, запрашае Сапегу, разглядае яго.)* Хоць вайну было пачынай з царствам за канцлера... А што, уласна, здарылася?..

**Сапега.** Ды нічога асаблівага... Такое царства, такі цар... Адразу па прыездзе пасольства фактычна трапіла ў палон пад моцную ахову. Гасудара іхняга не бачылі шэсць тыдняў. Пасля чыста рытуальнай сустрэчы, дзе мы яго віталі ад імя вашай вялікасці і каралеўскія падарункі перадалі, ён нас 18 тыдняў за плотам і пад ружжом пратрымаў. Затым ужо на папярэднім баярска-думскім балагане з удзелам хлапчука-царэвіча амаль усе пункты дамовы аб міры і саюзе былі адвергнуты, а падпісанню перамір'я ўльтыматум паставілі: аддаць Маскові Лівонію, а Барыску саступаць жа было самазванцу... Пачалося выпрабаванне волі нашай і гадуноўскай — хто не вытрымае і саступіць. І да таго давялі нас пагрозамі, што мы сабе смерці прасілі...

**Жыгімонт.** Падлюкі! Дзікуны!

**Сапега.** Не тое слова, ваша мосць. Ні справы не робяць, і дамоў не адпускаюць. Давялося заявіць, калі, маўляў, гасудар ваш не загадае нас адпусціць, то мы сядзем на коней і самі паедзем, а хто нас стане біць, і мы таго пачнём біць, таму што дайшло нам не да гаспадарскага гонару. Нам свае жыццё за ўсё даражэй,— не прызвычаіліся жыць у няволі.

**Жыгімонт.** Значыць, ні з чым вярнулася вялікае пасольства?..

**Сапега.** Як можна, ваша вялікасць. Калі ганец вашай мосці прывёз нам весткі аб перамозе войскаў Рэчы Паспалітай над валашскім гаспадаром Міхаем, а я паведаміў пра гэта самазванцу Гадунову, дадаўшы, што зараз кароль наш і вялікі князь, бадай што, кіне свае войска супраць шведаў, ён без якіх бы то ні было патрабаванняў і ўмоў пагадзіўся на перамір'е з намі на 20 гадоў і цалаваў крыж над перамірнымі граматамі. Пасла свайго у Кракаў таксама абяцаў прыслаць. Як у нас ліцьвіны-беларусцы кажуць, з паршывай авечкі хоць воўны жмук.

*Цырымоніймайстар прыносіць на падносе бакалы з віном. Ставіць яго на столік паміж каралём і канцлерам і, пакланіўшыся, выходзіць.*

**Жыгімонт.** Перамір'е на 20 гадоў — гэта не проста жмук! За перамір'е і тваё шчаслівае вяртанне з «Маскоўскай Арды» і падымем келіхі, канцлер Вялікага Княства.

*Стукаюцца келіхамі, адпіваюць віна.*

*(Задумённа.)* А мір і вечны саюз адрынуты. Перамір'е ж такая хісткая рэч, што можа быць нечакана і па-азіяцку каварна парушана. Трэба думаць, што рабіць, канцлер.

**Сапега.** У іх, за плотам, я думаў над гэтым паўгода...

**Жыгімонт.** Як дадумаеш да канца, падзяліся са мною. *(Не дачакаўшыся адказу.)* Ты двойчы пабыў у Маскве, праехаў праз не абсягі, сутыкнуўся з асобамі значнымі... А што дазнаўся ад сяброў маскоўскіх? Што данеслі віжы і шпегі? З чым і з кім можна параўнаць Маскву гэту?

**Сапега.** З Залатой Ардой, бадай што. Як кажуць, яна яе ўсе костачкі сабрала і з костачкамі візантыйскімі перамяшала. А калі з Рэччу Паспалітай параўнаць, то ў нас любяць жыццё, у Маскові «любяць» псеўда-цара-дэспата. У нас любяць Айчыну, Бацькаўшчыну, там любяць дзяржаву. У нас пры каралі і вялікім князі — спраўцы дзяржаўныя, у іх пры цары — халопы гасударавы. Чым не арда?!

**Жыгімонт.** Чым і як гэтая арда жыве сёння?

**Сапега.** Калі ў трох словах — жыве як перад пагібеллю.

**Жыгімонт.** Выходзіць, што і чакаць ад арды можна чаго заўгодна будзе хану Гадунову...

**Сапега.** Любой брыдоты, толькі не міру. Такі хан, такія халопы, ваша мосць.

**Жыгімонт** *(падсоўвае Сапегу бакал, адпівае сам. Паўза зацягваецца. Занепакоена)*. Ты, Леў, маёй мосці не шкадуй. Мы з табой разумеем, з кім справу маем. І давай мне больш дакладна, што азначае «цэлае царства жыве, як перад пагібеллю?..» Добра гэта для нас ці небяспечна?

**Сапега.** Масковія — краіна ўсеагульнага страху і няўпэўненасці. Няўпэўненасці людзей усіх станаў у сваёй бяспецы, пастаянны страх самога гасудара перад таямнічымі ворагамі і не знешнімі, а сваімі, унутранымі. Усеагульны страх перад гасударом яго халопаў набліжаных і сасланых у манастыры і на катаргу. Страх скаваў імкненне і вяхоў, і нізоў да лепшага, да правільнай працы і разумовай работы. Усё і за ўсіх вырашае адзін хан-правіцель. Рускі чалавек у сваёй бальшыні жыве, як давядзецца, здабывае сродкі да жыцця, як выпадзе, дрыжыць перад небяспекай рабункаў ці смертазабойства, падману, ілжывага даносу-паклёпу, здрадніцкай загубы. Ён і сам не ўсумніцца апярэдзіць тое, што з ім можа быць. Ён таксама абманвае, крадзе, рабуе, жывіцца, як можа, за кошт бліжняга дзеля сродкаў свайго існавання, якое ў яго заўсёды няпэўнае. І п'е ён бязбожна як скопам, так і сам з сабою. П'е без меры многа і да мярзотнасці, да страты розуму і чалавечага аблічча.

Ва ўсіх саслоўях множацца і растуць разлады і супярэчнасці; ніхто не давярае свайму бліжняму; гэта царства пыхі і дурноты, пагарды, хабарніцтва і разбэшчанасці душы. Адзін саноўны маскавіт казаў мне ў роспачы: «Впали мы в объядение и пьянство великое, в блуд и лихвы, и в неправды, и во всякие злые дела».

У прыватным, дамашнім жыцці рускі чалавек неахайны, у працы лянівы, у зносінах з людзьмі лжывы, каварны, бессардэчны. Ці ж мы не ведаем пра гэта па іх беспярапынных набегах на нашы вялікакняскія землі. А дадамо да гэтага казнакрадства, вымаганні і даносы адзін на другога з мэтай авалодаць чужым дваром, чужым дабром!

**Жыгімонт** *(занепакоена)*. І выходзіць, шаноўны ты мой канцлер, варта Гадунову кінуць у гэта жахлівае асяроддзе кліч да чарговага паходу на ляхаў і ліцьвінаў і пад рукой у яго акажуцца новыя загоны і полчышчы, гатовыя яшчэ раз парабаваць землі «отчинные и дединные»?..

**Сапега.** Мяркую, што гэтага пакуль не будзе.

**Жыгімонт.** Чаму?..

**Сапега.** Гадуноў стварыў сам сабе столькі ўнутраных праблемаў, што яму цяпер не да знешніх авантур.

**Жыгімонт.** Не зразумеў...

**Сапега.** Гэта лёгка ўявіць. Будучы правіцелем усяе Русі пры прыдуркаватым цары Фёдары Іаанавічы Гадуноў арганізоўвае забойства малалетняга законнага спадкаемцы пасаду царэвіча Дзмітрыя Іаанавіча. Праўда, ходзяць чуткі, што царэвіч уратаваўся ў нас у Вялікім Княстве, а зарэзаны па загаду Гадунова быў сын угліцкага папа. Сеўшы на царскі трон, правіцель Гадуноў выклікаў буру наракання народа, баяр, дваран думных. А таксама асобаў духоўных. Усе яны цяпер і ловяць рыбку ў мутнай вадзе ды інтрыгуюць супраць самазванца. Групоўкі ўдзельных князёў прымерваюць сваіх стаўленнікаў да шапкі Манамаха і царскага пасаду. Лжэцар і дзетазабойца ў сваю чаргу вядзе ўсеагульны вышук і масавыя смяротныя пакаранні сваіх магчымых ворагаў і непрыяцеляў. Перыядычныя падпалы ператвараюць Маскву ў пыл і попел. Татарскія загоны перыядычна падступаюць да сталіцы. А народ і супраціўнікі цара-самазванца наракаюць на тое, што лжэцар Барыска сам арганізоўвае падпалы і правакуе сваіх аднакроўных татараў, каб адцягнуць увагу падданых ад забойства царэвіча Дзмітрыя. Набліжаныя ж Барыскі на зло аддаленым ад яго кураць неверагодны фіміям і неверагодныя пахвалы праўленню і асобе свайго любага гасудара, спрабуючы ўсяляк выклікаць яго прыхільнасць да сябе. І людзі паспалітыя, і чэрнь нявольная хоць і бачаць, што ўсё гэта прытворства, не толькі не могуць нічога супрацьпаставіць свістаплясцы, але нават не адважваюцца што-небудзь падумаць супраць правіцеля-узурпатара. А ўзурпатар тым часам адпраўляе на той свет непаўналетнюю дачку цара нябожчыка Фёдара. Супрацьпаставіўшы народнаму абурэнню вышук і смяротныя кары, дзетазабойца не адважваецца раскрыць, каго і за што вышуквае і карае. Заікнуцца аб усмерчаных царэўне і царэвічы Дзмітрыі значыла б выклікаць на свет жахлівыя прывіды. Але самае галоўнае ў тым, што Барыс не да канца ўпэўнены, што царэвіча Дзмітрыя дакладна няма на свеце. Яму і не застаецца нічога іншага, як падазраваць у варожасці да сябе любога і кожнага, ды адпаведна мучыць, судзіць, караць. Гэтым ён і заняты.

**Жыгімонт** *(узрадавана)*. Гэта ж амаль смута, канцлер?!

**Сапега.** Калі і не смута, то замятня вялікая. Потым страшнае прадчуванне не Барыса спраўдзілася. Перад самым ад'ездам з Масквы вялікага пасольства пранеслася чутка, што царэвіч Дзмітрый не тое, што ўсмерчаны, а нібыта недзе ў нас узгадаваны, за мяжой адукаваны і збіраецца спіхнуць Гадунова з царскага пасаду.

**Жыгімонт** *(у захапленні)*. Фантастыка!

**Сапега.** Не скажыце, ваша мосць... Фантастыка якраз можа стацца яваю...

**Жыгімонт.** Ты схільны паверыць у гэта?..

**Сапега.** Я не маю падстаў гэтага адмаўляць... Але гэта яшчэ не ўсё, ваша вялікасць.

**Жыгімонт** *(адпіўшы віна)*. Куды ўжо больш...

**Сапега.** На Русь насоўваецца вялікі голад..., і ёй будзе не да вайны.

**Жыгімонт.** Ці не хацеў канцлер сваім надзвычай цікавым аповедам сказаць каралю, што перамір'е з Масковіяй нам цяпер зусім недарэчы?..

**Сапега.** Не, ваша мосць. Нават пры ўмовах, што склаліся, нам не варта ваяваць з Барысам Гадуновым.

**Жыгімонт.** А па мне самы зручны момант. Не жадае Барыска вечнага міру і саюзу, няхай атрымае вайну. Потым, Масковія захапіла і трымае нашы ўсходнія землі... Смаленшчыну, Севершчыну...

**Сапега** *(падкрэслена)*. Нашу Смаленшчыну і Севершчыну, ваша мосць.

**Жыгімонт.** Дапусцім, каб не пасварыцца, але ж я дапамагу Вялікаму Княству вярнуць гэтыя землі.

**Сапега.** Дзякуй вашай вялікасці, але мы пачакаем лепшых часоў.

**Жыгімонт.** Куды ўжо лепшыя?!

**Сапега.** Няхай мне даруе ваша каралеўская мосць, яле я не па вайну ў Маскву ездзіў.

**Жыгімонт** *(злосна)*. Ездзіў, а што выездзіў?!

**Сапега.** Парушэнне намі кволага перамір'я з Масковіяй немінуча справакуе вайну Швецыі супраць Рэчы Паспалітай. А яна не такая моцная, як бы хацелася. Ды і той жа валашскі гаспадар Міхай з другога боку...

**Жыгімонт** *(разгублена)*. Ты так лічыш?

**Сапега.** Так, ваша мосць.

**Жыгімонт.** Шкада. Вельмі шкада. *(Напаўняе келіхі віном.)* Чапкавэго, як тут кажуць. *(Бярэ келіх, другі падае Сапегу. Абодва ўстаюць.)* Нех жые!

**Сапега.** Сто лят вашай мосці!

*Стукаюцца келіхамі.*

*Алесь Петрашкевіч*

# ВЫМУШАНАЯ АВАНТУРА

## *Версія гістарычнай драмы. Час падзей 1600—1606 гг.*

IV

*У невялікай гасцёўні заклапочаны Сапега ў чаканні важнай сустрэчы. Уваходзіць Дзмітрый ва ўборы магістра.*

**Дзмітрый.** Вітаю вас, шаноўны Леў Іванавіч!

**Сапега** *(узрушаны абдымае Дзмітрыя).* Рады, вельмі рады цябе бачыць.

**Дзмітрый.** Я таксама сумаваў без вас. Непакоіўся вашай затрымкай у Маскве. І не бачыліся так даўно.

**Сапега.** Мне за табою не ўправіцца. Ты больш там, чым тут...

**Дзмітрый.** Еўропа вялікая, Леў Іванавіч. І ўсюды пабыць ахвота.

**Сапега** *(разглядае Дзмітрыя).* Сядай і пачувай сябе, як дома.

*Дзмітрый садзіцца ў крэсла, Сапега насупраць яго.*

Малайчына, Дзмітрый Іаанавіч. Хараша глядзішся, падрос, узмужнеў, і магістарскі гарнітур табе да твару.

**Дзмітрый** *(зняўшы чатырохвугольны галаўны убор).* Ён мне таксама падабаецца.

**Сапега.** А як з вучобай, з навукай?

**Дзмітрый.** Не хачу хваліцца, але, здаецца, няблага. *(Смяецца.)* Чым больш вучуся, тым меней ведаю. *(Сур'ёзна.)* А свет і людзі такія непазнавальныя...

**Сапега.** Нармальнае самаадчуванне ў твае гады. І няхай магістра гэта не засмучае. Я ўсё жыццё адчуваю гэты трывожны стан. Усё нармальна. Параўнанне ягелонскай альма матэр з іншымі універсітэтамі Еўропы на чыю карысць?

**Дзмітрый.** Цяжка сказаць, Леў Іванавіч. Хацелася б павучыцца ў кожным і даўжэй.

**Сапега.** Гэта добра. *(Доўгая паўза.)* Гэта добра... але вучобу ва універсітэтах і падарожжы давядзецца перапыніць і можа назаўсёды... У жыцця давядзецца вучыцца, а яго ўрокі не простыя і надзвычай суровыя... Еўропа вялікая, а Русь наогул бяскрайняя...

**Дзмітрый.** Значыць, час прыйшоў...

**Сапега.** Прыйшоў, Дзмітрый Іаанавіч... час табе ўваходзіць у гісторыю, тварыць гісторыю, у яе ж і вучыцца дзяржаўнаму розуму і спрыту.

**Дзмітрый.** Не палохайце мяне, настаўнік.

**Сапега.** Не будзем дрэйфіць, царэвіч. Нечаму мяне навучыла жыццё. Нешта я здолеў табе перадаць. Не прайшлі так і універсітэты. Па адукацыі, ведах і светлых памкненнях не будзе табе роўных на Русі вялікай. Пакарыстайся гэтым багаццем на карысць сваёй дзяржавы і люду паспалітага. Урэшце рэшт не святыя гаршкі лепяць. Але ж табе наканавана быць не проста майстрам, бо ты памазанік Божы на магутнае, але няшчаснае царства. Тваё прызначэнне прывесці Русь да міру з суседзямі, да асветы, навукі, еўрапейскай культуры, перамагчы дзікую азіятчыну, устаяць не толькі перад знешняй, але і перамагчы ўнутраную татаршчыну. Сваё ж прызначэнне бачу ў тым, каб замірыць з тваёй дапамогай царства рускае з Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім. Схіліць да таго і Каралеўства Польскае, каб адначасна вызваліцца Вялікаму Княству, мякка кажучы, з-пад яго ўплыву. Твая місія, царэвіч, у гэтым будзе найпершаснай, вырашальнай.

**Дзмітрый** *(нібы расчаравана).* Я не думаў, што гэты час настане так хутка... і нечакана...

**Сапега** *(мякка, па-бацькоўску).* Час прыспешвае, мой хлопчык. Ён жа і дыктуе свае ўмовы. А народ Русі даўно чакае і, будзем спадзявацца, сустрэне з радасцю вызвалення ад няшчасцяў і тыраніі ўзурпатара.

**Дзмітрый.** А як не сустрэне...

**Сапега.** Сустрэне! І ў гэтым ты ўжо майму досведу павер.

**Дзмітрый.** А акрамя вашага вопыту і разлікаў, да якіх я аднoшуся з павагай сына, іншыя перадумовы ёсць?

**Сапега.** Ёсць і вельмі пэўныя... Дасягнуўшы царскага пасаду хітрыкамі і каварствам, Гадуноў не мог і не можа, не павінен валодаць дзяржавай са спакоем і ўпэўненасцю, як гасудары законныя, народжаныя на троне. Падазрэнні і страх расплаты не пакідаюць яго. Страх згубіць карону і неабмежаваную ўладу прымушаюць злодзея ўжываць дзеля ўтрымання ўлады сродкі, што паслужылі яе захопу насуперак закону і традыцыі.

Карыстаючыся звычайнай палітыкай усіх зладзеяў, ён акружыў сябе кляўрэтамі, аддаліўшы папярэдніх прыслужнікаў, якія падаліся яму не вельмі адданымі. Баючыся яўна парушыць клятву, дадзеную пры каранацыі на царства, Барыс таемна ўсмерчваў і ўсмерчвае падазроных падданых свайго атачэння, і замест законнага суда і кары яд і кінжал вынішчаюць няшчасных ахвяраў яго ўладалюбства. Таемнае знікненне яго супраціўнікаў стала звычайнай з'явай. Устанавіўшы сваёй уладай аддаваць чужое дабро нягодным даносчыкам і шпегам, Барыс самым крамольным сродкам раздушыў, растаптаў маральнасць і духоўнасць народа, прынізіў яго дабрачыннасць, узвысіў зло, адкрыў шырокую прастору зладзейству, помсце, карысталюбству, а ўсіх добрых, пакорлівых грамадзян зрынуў у адчай. Разарваны святыя сувязі радні і сваяцтва. Недавер і падазронасць усіх да ўсіх вынішчылі прыстойнасць, любоў, роднасць, дружбу і таварыскасць; зніклі грамадзянскія адносіны паміж начальнікамі і падначаленымі, ліхвярства стала законам жыцця, цэлыя сем'і і роды загінулі ў цямніцах ці зніклі ў выгнанні. Азіятчына, татаршчына, царская дэспатыя захліснулі дзяржаву. Вось чаму настаў твой час царэвіч Дзмітрый Іаанавіч!

Твой поспех ў тым, што баяры, дваране імяністыя і дзякі думныя ненавідзяць Гадуновых. Тое ж можна сказаць і пра народ просты. Нават падручныя тырана — каты, халуі, лізаблюды, выведнікі, навушнікі і даносчыкі — баяцца цара-ката і жадаюць яго пагібелі. Перст гневу божага крануўся Русі Вялікай. Голад морыць яе няшчасны люд. Прыйшла пара. Настаў момант ісціны.

І апошняе. У народзе маскоўскім, і не толькі маскоўскім, абсалютна натуральна ўзнікла, нарадзілася і ўмацавалася перакананне, што цараванне Гадунова, якое трымаецца не на праўдзе, не дабраслаўляецца Небам. Народ стаў разумець, калі ўмацуецца на троне род Гадуновых, то не быць шчасцю і волі на рускай зямлі. А людзі радавітыя абражаны яшчэ і тым, што на царскі пасад сеў нашчадак татарына. Сёння, як ніколі, на Маскве і ўсёй Русі стала пажаданым, каб знайшоўся такі з дынастыі царскай і хрысціянскай, які меў бы ў вачах народа найвышэйшыя правы на цараванне перад Барысам. Такой асобай ад нараджэння быў і застаешся адзіны ты, Дзмітрый Іаанавіч — сын і спадкаемца папярэдняга законнага гасудара. Глагол пра тое, што спадкаемца пасаду хутка з'явіцца, каб адабраць у Барыскі скрадзеную карону пранясецца над Вялікім Княствам і на Русі Вялікай. А суровыя кары Барыса за распаўсюджанне гэтай навіны хутчэй падтрымаюць яе, чым адвергнуць.

І так, царэвіч, мы ўступаем з табой у барацьбу праўдзівую, законную і пераможную. Ты — у адкрытую, я пры табе ў таемную. Не здзіўляйся — пасада абавязвае.

**Дзмітрый.** Удвох уступаем, ці...

**Сапега.** Удвох. Толькі пад тваёю рукой будуць казакі, дзесяткі тысяч казакоў спачатку паўднёвых, потым северскіх, а потым і воінства самога Барыса. А пад маёй — толькі адзін мой чалавек. Праз яго мы будзем зносіцца... таемна і пераважна вусна. У чалавека адмысловая памяць і ён па ходу падзей будзе пераказваць табе мае парады.

**Дзмітрый.** А кароль?..

**Сапега.** Ад караля таксама буду таіцца і, на колькі змагу, буду стрымліваць яго ад удзелу ў справе. Не хаўруснік ён нам.

**Дзмітрый.** Зразумела... Калі і як я адкрыюся?

**Сапега.** Перш за ўсё табе неабходна трапіць у аршак князя Адама Вішнявецкага. Дэталі раскрыцця абмяркуем дадаткова.

**Дзмітрый.** Што такое аршак?

**Сапега.** Прыдворная княжацкая чэлядзь.

**Дзмітрый.** Чаму ў чэлядзь менавіта князя Вішнявецкага?

**Сапега.** Там ты адкрыешся і на пачатку пакарыстаешся яго машной. Князь — чалавек рамантычных захапленняў і не апошні багацей ў Польшчы.

**Дзмітрый.** Авантурыст?

**Сапега.** Заўзяты.

**Дзмітрый.** Значыць, разам з казакамі на Маскву пойдуць і палякі?

**Сапега.** Пакуль гаворка толькі пра грошы Вішнявецкага. Ён чалавек ганарысты, фанабэрысты і яго будзе грэць і цешыць думка пра блізкія адносіны з будучым рускім царом. А наогул я буду ўсімі сіламі і магчымасцямі стрымліваць палякаў, і асабліва караля, ад гэтай, як ты кажаш, авантуры.

**Дзмітрый.** Чаму стрымліваць?

Сапега. На сёння адзінае, што звязвае царства ўсяе Русі з Вялікім Княствам Літоўскім і Рускім — гэта праваслаўная вера. Польшча, Карона веры рымскай, каталіцкай. Калі ў нашу справу ўблытаецца Польшча, за ёю ўлезе і папская курыя з езуітамі. А гэта небяспека не толькі для Русі, але для нашага Вялікага Княства. І нам бы далей ад гэтага...

**Дзмітрый.** Як жа далей, калі я ў католіка Вішнявецкага грошы вазьму?..

**Сапега.** Калі здарыцца горшае, будзеш абяцаць каталікам усё, што запатрабуюць, пакуль не сядзеш на царства. Я бачу паход твой на Маскву такім імклівым і ашаламляльным, што з абяцанага ты не паспееш выканаць рашуча нічога. Ды і імкнуцца да гэтага не варта. Зменяцца абставіны, зменяцца і твае абавязкі ды абяцанні. У вялікай палітыцы гэта звычайная рэч.

**Дзмітрый.** Усё падобна на авантуру...

**Сапега.** Гэта наша вымушаная авантура. На жаль, іншага не дадзена...

**Дзмітрый.** Авантура дык авантура!

**Сапега.** Але ж пры тым, што ты не авантурыст, а сапраўдны, прыроджаны царэвіч.

**Дзмітрый.** Тым больш!

**Сапега.** Тады першы ўдар па тырану і самазванцу наносім шырокім пóгаласам, што ці то ў Вялікім Княстве, ці то ў Каралеўстве аб'явіўся спадкаемца маскоўскага пасаду, ўратаваны ад смерці наглыя і неспадзяваныя царэвіч Дзмітрый Іаанавіч. А цяпер адпачывай і думай. Занятак гэта царскі. А я да караля... *(Абдымае Дзмітрыя і выходзіць.)*

V

*Узбуджаны і ўсхваляваны Ежы Мнішак ходзіць па пакоі. Спыняецца перад вялікім люстрам.*

**Мнішак.** Ну і Мнішак! Ну і Ежы! Шэнціла ж табе і раней... але каб так?! Цяпер ужо, ваявода сандамірскі, пагалоска людская разнясе тваё імя ад Кракава да Парыжа! Ды што той Парыж-Лондан?! Царства маскоўскае будзе каля тваіх ног, а свет ахне ў зайздрасці ад тваёй удачы!..

*Уваходзіць Марына Мнішак. Прыгажосць і абаяльнасць яе нечуваныя.*

**Марына.** З кім гэта татусь тут размаўляе?

**Мнішак.** З сабою. З сабою, цурка.

**Марына** *(здзіўлена).* З чаго б гэта?

**Мнішак** *(разглядае сябе ў люстры).* З павагі.

**Марына.** У якім сэнсе?

**Мнішак.** У вялікім! У самым вялікім, надзвычайным сэнсе самапавагі і захаплення.

**Марына** *(здзіўлена).* Нічога не разумею...

**Мнішак.** Зразумееш, як толькі ўбачыш, каго прывёз мне зяцёк Кóстусь Вішнявецкі.

**Марына** *(незадаволена).* Зноў якуюнебудзь новую жар-птушку. Не такі ты ўжо маладзён, а туды ж...

**Мнішак** *(злуецца).* Пры чым тут гэта?.. Царэвіча ён мне прывёз. А лепш сказаць — нам, а яшчэ дакладней — табе ён яго прывёз!.. І ў самы час...

**Марына** *(ашаломлена).* Якога яшчэ царэвіча?

**Мнішак.** Сапраўднага, натуральнага, законнага спадкаемцы цара Масковіі.

**Марына.** А яму ў Сандаміры адкуль было ўзяцца?..

**Мнішак.** Уваскрос з мёртвых. Зарэзаны Гадуновым гадоў пятнаццаць таму царэвіч Дзмітрый Іаанавіч уваскрос!

**Марына** *(абыякава).* Ну, а табе якая радасць? Не Хрыстос жа ўваскрос, а нейкі царэвіч ды яшчэ Маскоўскі.

**Мнішак** *(зрываецца).* Не будзь дурніцай — царэўнай станеш, хоць сабе і маскоўскай!.. Паўгадзіны дзяўбу, а яна як слупок. Ад Ежы Мнішака дынастыя цароў маскоўскіх пачнецца! Да сандамірскага ваяводства Русь Вялікую, а з ёю Малую і Белую за адно далучым! Кароль Жыгімонт ад зайздрасці захлынецца, не кажучы ужо за іншых...

**Марына.** Супакойся, татусь... Здаецца, я нешта пачынаю разумець. *(Злосна.)* Ды сядзь жа ты, не мітусіся!.. Дзе царэвіч?

**Мнішак** *(завальваючыся ў крэсла).* Ой, бардзо! Ой, бардзо!.. Як толькі царэвіч пераапранецца, зяцёк Кóстусь яго сюды прывядзе. Так што прычапурыся і ўсё такое.

**Марына.** Дзе ён яго ўзяў?

*Мнішак усхопліваецца з крэсла.*

І я сказала: сядзь!

*Мнішак паслухмяна садзіцца.*

Я яшчэ спытала: дзе ён яго ўзяў?!

**Мнішак** *(крыху спакайней).* У брата свайго Адама Вішнявецкага. У аршаку ягоным служыў царэвіч простым чалядзінам ды захварэў. А дайшоўшы да смерці, прызваў духоўніка і папрасіў пахаваць яго па смерці, як хаваюць царскіх дзяцей. Для пацверджання сваёй царственнай асобы даў прачытаць грамату і крыж дарагі паказаў. З граматы і даведаліся, што паміраючы не хто іншы, а царэвіч Дзмітрый, сын цара Іаана Грознага, якога добрыя людзі ўратавалі ад смерці і схавалі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Цяпер на Маскву збіраецца ў Барыса шапку Манамаха з галавы здзерці ці разам з галавою адарваць. *(Зноў падхопліваецца з крэсла, мітусіцца па пакоі.)* Ай, выпадак! Ай жа ўдача! У Адама дапамогі грашыма прасіў, а той, скнара, сплавіў яго Кóстусю, а зяцёк змікіціў і да нас прывёз. А я апошняе аддам! У дошку разаб'юся, а расходы на вялікую справу на сябе вазьму! Караля ў вайну ўтраўлю! Але галоўнае прываражыць яго, прывязаць, улюбіць, ды так прысушыць, каб як хлапчука жаўтаротага.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*260 гадоў з дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі*

# АПОШНІ ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

## Гістарычная рэканструкцыя Станіслава Судніка

Ад таго моманту, калі 24 красавіка 1794 года ў Вільні на Рынкавым пляцы Лідскі лоўчы Юры Белапятровіч на гонар і славу лідзян усіх пакаленняў, былых і новых, абвясціў пачатак паўстання ў Вялікім Княстве Літоўскім супраць маскоўскай агрэсіі, за свабоду і непадзельнасць Бацькаўшчыны, прайшло два з паловай месяцы. Паўстанне цярпела паразу. Маскоўскія войскі закончылі акупацыю Ашмянскага павету. Наперадзе быў яшчэ адзін павет Вялікага Княства – Лідскі.

Генерал Б. Ф. Кнорынг выступіў з Іўя ў бок Дворышча. 5 ліпеня гэта стала вядома ў Лідзе. Паведамленне прыйшло вечарам падчас плянарнага паседжання. Лідскай парадкавай камісіі (павятовага органа кіравання паўстаннем начале з лідскім старастам Язэпам Сцыпіёнам дэль Кампа). Бараніць Ліду не было каму. Паўстанцкі ўрад не адказаў на просьбу лідзян вярнуць ім шэсць гармат, забраных у Сцыпіёнаў і адвезеных у Гародню. Не выпадала чакаць дапамогі і ад рэгулярнага войска ВКЛ, якое стаяла лагерам пад мястэчкам Яцунем за ракой Мераччу пакінуўшы колькі дзён таму Веранова, і якое, нягледзячы на колькасць у 7 тысяч чалавек, пасля адстаўкі з паста галоўнакамандуючага войскаў ВКЛ Якуба Ясінскага не ўяўляла больш значнай небяспекі для маскоўцаў. Яно яшчэ магло балявацъ, але не ваяваць. Таму Парадкавая камісія тэрмінова пакінула Ліду і выехала ў бок Мыто, каб потым аднавіць працу ў Новым двары.

У горадзе засталіся войскі павету: дзве сотні павятовай кавалерыі пад камандаваннем генерал-маёра Караля Сцыпіёна дэль Кампа, брата лідскага старасты і ротмістра Язэпа Вілбека з Кандрацішак, а таксама сотня апалчэнцаў з прыгараднай шляхты і татараў пад камандай лідскіх абывацеляў Язэпа Дамініка Шалевіча, камісара аддзелу вайсковых патрэбнасцяў Лідскай парадкавай камісіі і Францішка Александровіча, пісара земскага, харунжага, камісара грамадзянскіх войскаў Лідскай парадкавай камісіі.

У Лідзе было яшчэ каля тысячы рэкрутаў, набраных Парадкавай камісіяй паводле ўніверсалаў ураду. Але ўсе яны былі без зброі і неабучаныя. Пазней усе гэтыя лідскія ваенізаваныя фармаванні ў рапартах расейскіх генералаў ператворыцца ў 2,5 тысячы добра ўзброенага войска.

Дыспазіцыя абароны Ліды будавалася наступным чынам. Сотні Караля Сцыпіёна і Язэпа Вілбека атакуюць непрыяцеля ў зручным месцы пры выхадзе з Дворышча, а ў выніку няўдачы адходзяць у Ліду. Тут жа, перад мостам пры піярскім млыне трымае абарону сотня Шалевіча і Александровіча.

Можна было, канешне, ваяваць па іншаму, можна было кінуць рэкрутаў на земляныя работы, капаць шанцы. Можна было адбівацца ад маскалёў з акопаў. Але супраць гэтага былі наступныя абставіны. Абцягнуць шанцамі ўсю Ліду не было часу. Тыя тры сотні, узброеныя акрамя неадменных шабляў кавалерыйскімі карабінамі і пісталетамі, маглі трымаць абарону толькі на невялікім участку, ды і то эфектыўнасць той абароны была б не надта высокай. Адзінай перавагай абаронцаў Ліды была іх высокая манёўранасць, паколькі ўсе тры сотні былі на конях. І паколькі кавалерыйскія сотні не надта прыдатныя для баёў у шанцах, то і было вырашана весці абарону Ліды кароткімі атакамі на подступах да горада.

Генерал Кнорынг, прыбыўшы ў Дворышча пад раніцу 6 ліпеня, разбіў тут свой лагер і выслаў дазор па лідскай дарозе. Гэты дазор неўзабаве наткнуўся на сотні Сцыпіёна і Вілбека. Сотні выцялі ў шаблі. Маскалі, не прыняўшы бою, кінуліся наўцёк, далажыўшы Кнорынгу пра моцны пост ракашан на лідскай дарозе. Кнорынг загадаў палкоўніку Чэсменскаму з трымя сотнямі кавалерыі (драгуны і егеры, пасаджаныя на коней), дзвюмя сотнямі казакаў і дзвюмя гарматамі атакаваць пост ракашан, разбіць яго і ісці на Ліду.

Сцыпіён і Вілбек, ацаніўшы сітуацыю і перавагу непрыяцеля ў колькасці і ўзбраенні, вырашалі другі бой пад Дворышчам не даваць, а адысці пад Ліду на злучэнне з трэцяй сотняй. Лідзяне лёгка адарваліся ад абцяжаранага гарматамі аддзелу Чэсменскага і з'явіліся перад Лідай. Стратаў пад Дворышчам яны не панеслі. і маральны дух шляхты быў высокі.

Сцыпіён загадаў Шалевічу і Александровічу заняць абарону за мостам, а сотні яго і Вілбека схаваліся за пералескам.

Неўзабаве паказаўся непрыяцель. Убачыўшы сотню Шалевіча і Александровіча маскалі пачалі разгортвацца ў баявы шыхт. У гэты час і выцялі Сцыпіён і Вілбек. Аднак маскалёў, ветэранаў турэцкіх войнаў, сувораўскіх "цуда-асілкаў" не проста было застаць знянацку. Ад калоны аддзяліліся казакі і кінуліся напярэймы ліцьвінам. Пачалася сеча. У гэты час драгуны і егеры спешыліся і зшыхтаваліся ў карэ.

Шляхта адвяла душу. Несучы сур'ёзныя страты, яна змяла казакоў. Тыя кінуліся наўцёк, выводзячы ліцьвінаў на маскоўскі шыхт. Грымнулі гарматы. Выцяў першы залп, другі, трэці. Шляхта пасылалася з коней.

Сотні адкаціліся, гатовыя паўтарыць атаку, але Сцыпіён заўважыў, што казакі перашыхтаваўшыся выходзяць з-за карэ і спрабуюць перакрыць дарогу да моста. Сотні, дакладней, ужо паўсотні паімчалі да моста. Ізноў схапіліся з казакамі, ізноў лідская шляхта ўспомніла славу дзядоў, змяла казакаў і прарвалася да моста. Маскалі, казакі і драгуны, што паспелі сесці на коней, кінуліся следам, пачалі пераходзіць мост. У гэты час выцяла сотня Шалевіча і Александровіча Маскалі на мосце былі добрымі мішэнямі і адзін за адным пачалі куляцца ў Лідзейку.

Атака была адбітая, але ў лідзян засталося не болей 200 баяздольных ваяроў.

Маскалі пачалі разгортвацца ў лінію для новай атакі ўжо цераз рэчку ніжэй ад млына. Загрымелі гарматы. Гранаты пачалі рвацца ў горадзе. Жыхары налічылі 12 выбухаў. Хоць школы тыя гранаты прынеслі не шмат, але страху на абывацеляў нагналі вялікага.

Сцыпіён бачыў, што горад не ўтрымаць. Нават, калі ўдасца адбіць яшчэ адну атаку, з Дворышча падыдзе падмога. Ён загадаў рэкрутам тэрмінова разыходзіцца па дамах і чакаць новай каманды на збор. А сам з рэштаю павятовай кавалерыі і часткай апалчэнцаў, якія вырашылі не складваць зброі, пакінуў Ліду, скіраваўшыся ў бок Мыто.

Маскалі паўторна атакавалі горад, але супраціву больш не было і ў 7 гадзін вечара маскоўскія аддзелы ўвайшлі ў Ліду. Ад гэтага моманту Ліда назаўсёды перастала быць горадам Вялікага Княства Літоўскага і, як беспрытульная кабета, пачала бадзяцца па імперыях, рэйхах, рэспубліках, пакуль праз 200 гадоў не стала горадам зноў незалежнай краіны, хоць не Вялікага Княства Літоўскага, а Рэспублікі Беларусь, аднак сваёй краіны. Але гэта потым, а пакуль што трэба было хаваць забітых.

Генерал Б. Ф. Кнорынг у рапарце ў Пецярбург напіша, што забітых ракашан было 325 і ў палон схоплена 107. Пры гэтым пра свае страты не напіша нічога.

У традыцыі ўсіх вайскоўцаў – свае поспехі прыўвялічыць, а страты прыхаваць. Таму не дзіўна, што ў рапарце можа быць 325 забітых з 300, якія ўдзельнічалі ў баях, а рэшта ж яшчэ паводле таго ж рапарта ўцякла ў Мыто. У традыцыі маскоўскага войска было таксама ніколі не лічыць стратаў сярод казакаў, а страты ў рэгулярных частках не паказваць да часу, замяшчаючы іх навабранцамі з палонных.

Рэальна Сцыпіён і Вілбек страцілі каля сотні чалавек забітымі. У палон маскалі нагрэблі рэкрутаў, якія не паспелі ўцячы з горада, або схавацца.

Сваіх забітых маскалі на вазах вывезлі ў Дворышча. Забітых ліцьвінаў дазволілі хаваць у Лідзе на парафіяльных могілках каля агароджы Фарнага касцёла.

З цывільнай мясцовай улады ў горадзе засталіся бурмістр Язэп Раеўскі, войт Казімір Маскалевіч і камендант горада віцапробашч Фарнага касцёла ксёндз Навіцкі. На іх і легла адказнасць за пахаванне паўстанцаў.

Яшчэ 6-га вечарам людзі з падводамі выехалі за Лідзейку і пачалі збіраць забітых. Прывезеных заносілі ў Фарны касцёл і складвалі радамі ўздоўж сцен. Многіх пазнавалі, стараліся наказаць у бліжэйшы фальваркі і засценкі бацькам, жонкам, сваякам забітых шляхціцаў.

Маскалі ў пахаванне не ўмешваліся. Трэба згадаць, што гэта былі яшчэ тыя часы, калі афіцэры ўсіх войскаў Еўропы размаўлялі на адной мове - французскай. Гэта яшчэ былі часы больш-менш цывілізаванай вайны, пры ўмове што паняцці "вайна" і "цывілізацыя" наогул сумяшчальныя. Акрамя таго ў іх быў іншы больш важны клопат. Ім трэба было садраць кантрыбуцыю з манахаў і з яўрэяў ды парабаваць бліжнія фальваркі. Прыёр кармеліцкага клештара плаціць адмовіўся, тады яго ўзялі пад варту, а кляштар аддалі пад разрабаванне. Манахі – кармеліты страцілі ўсе прыпасы, рухомасць і грошы. Яўрэі заплацілі.

За ноч частку забітых разабралі сваякі, каб пахаваць на сваіх парафіяльных могілках. Назаўтра каля касцёла выкапалі вялікую яму. Паводле тутэйшай пахавальнай традыцыі яма не можа капацца загадзя, не можа начаваць, таму яму капаюць толькі ў дзень пахавання..

Пахавальную імшу адслужыў ксёндз Навіцкі. Народу на імшы было мала. Баяліся.

Хавалі без трунаў. Дно ямы заслалі сало-май. Спачатку клалі адзін каля аднаго, потым у другі рад. Прынеслі сувой палатка і закрылі твары палатном. Засыпалі.

Засыпалі тых хто аддаў сваё жыццё за незалежнасць сваёй краіны. Засыпалі саму гэтую незалежнасць.

Пройдуць стагоддзі, і да грузу зямлі, якая прыціснула палеглых змагароў, дадасца груз бяспамяцтва. Будуць знесены парафіяльныя могілкі. На іх месцы пастануць забудовы, Паносяць тыя забудовы, пабудуюць новыя. Цягнучы траншэі камунікацый павыкопваюць шмат касцей, магчыма і касцей паўстанцаў.

Але якія "траншэі" трэба прарэзаць у нашай засмечанай свядомасці, каб дакапацца да разумення таго, што згаданае паўстанне ў Лідзе не скончана і не будзе скончана, пакуль на месцы пахавання паўстанцаў не будзе пастаўлены годны іхняму вычыну помнік.

Тады мы, нарэшце, зможам цвёрда сказаць, што Ліда зноў стала горадам сапраўднай незалежнай краіны.



*Сутычка паўстанцкай кавалерыі з расейскай пяхотай. Мастак Аляксандр Арлоўскі, 1794 г.*



# Пра маркіроўку тавараў па-беларуску

## Мазырская соль

Паважаная рэдакцыя!

Звяртаецца да вас былая настаўніца беларускай мовы са шматгадовым стажам. Лёсам наканавана мне жыць зараз удалечыні ад Беларусі. Тым не менш, усімі сваімі думкамі, памкненнямі я на Радзіме. Заўсёды з неаслабнай увагай сачу і аналізую скупую інфармацыю, якую падаюць з экрана тэлевізара ці друкуюць у расейскіх газетах.

З якой удзячнасцю і бязмежнай радасцю чытаю лісты з ТБМ, ад Алега Трусава і Ірыны Марачкінай! Яны надаюць мне сілы для жыцця, надзённых спраў.

Хоць я і далёка, але пастаянна чытаю, дзякуючы клопатам сяброў, "Наша слова", перыядычна – "Нашу Ніву", "Народную волю". Усцешана, што беларускае слова жыве, што ёсць рупліўцы, якія не пакідаюць роднай мовы.

Але чалавека мацуе не толькі духоўнае. Робячы розныя пакупкі, міжволі звяртаеш увагу на іх адрас. Днямі набыла пачак солі з Мазыра. Як я ўзрадавалася! Нібы прывітанне з роднай зямлі атрымала. Соль сапраўды вельмі якасная, прызнаная шмат у якіх краінах; калектыў Мазырсолі мае прэміі за дасягненні ў галіне якасці прадукцыі. Упакоўка прыстойная: прыгожая, зручная, надзейная. У ранейшай соль рассыпалася, дадому можна было і не данесці. Аднак пачуццё гонару знікла хутка. Зрабілася прыкра, сорамна і крыўдна: рэкамендацыі, характарыстыка змесціва былі пададзены толькі па-руску! Не кожнаму зразумела, адкуль соль на стале: частка Палесся (назва солі) належыць Украіне; сціплае БГУ "Белгоспіщепром" набрана дробным шрыфтам; ды і горад Мазыр (на жаль!) ведае не кожны расіянін.

Упэўнена, што адным з галоўных арыенціраў у гэтай справе стала б мова. Яна – візітоўка любой краіны. Тым больш, калі гэта высакаякасны прадукт, якім можна ганарыцца. Так робяць ва ўсім свеце. Каб пераканацца ў гэтым, вазьміце любую пакупку, пачытайце тэкст да яе, і вы амаль заўсёды знойдзеце там апісанне і на мове краіны-вытворцы.

Якія контраргументы на мае разважанні маглі б прывесці ў Мазырсолі?

*Марыя Сафро, Расія, Маскоўская вобл., г. Пушчына.*

## Магілёўскае масла

У продаж паступіла алейна-сметанковае масла "Вясковае". Масла выраблена ў Быхаве, расфасовна ў Магілёве.

Упакоўка выканана ад пачатку да канца на беларускай мове. У адпаведнасці з інфармацыяй, прыведзенай на абгортцы, яна прадугледжана для масла быхаўскай і чавусскай вытворчасці.

Такія, цалкам беларускамоўныя абгорткі ў нас вялікая рэдкасць, і таму асабліва прыемна, што яны пачынаюць з'яўляцца на Магілёўшчыне, дзе пытанні ўжывання беларускай мовы стаяць вельмі востра.

*Наш кар.*

са сметанковым смакам

масла "Вясковае"

72,5%

масла "Вясковае"

са сметанковым смакам

Частка прыбытку ідзе на падтрымку Беларускіх Храмаў

Масла "Вясковае"

## Варонежскі алей

АЛЕЙ

100% ПОДСОЛНЕЧНОЕ МАСЛО

1 ЛИТР

Алейны завод горада Эрціль Варонежскай вобласці Расіі рэгулярна пастаўляе сваю прадукцыю ў Беларусь. З улікам гэтага на этыкетках асноўная назва выканана па-беларуску "Алей". Праўда, усё астатняе на гэтай этыкетцы напісана па-руску, але ж Варонежская вобласць як-ніяк у Расіі. Тым не менш варонежцы, арыентуючыся на беларускі рынак, арыентуюцца і на нармальных беларусаў, якім прыемна на пакупцы прачытаць сваю, беларускую, назву.

*Наш. кар.*

# Сваю веру ён перадаў нам



Памёр **Павел Антонавіч Жук**, 1928 года нараджэння.

У Гародні гэтага чалавека ведалі многія. Яго лёс быў пакручастым і складаным. Напачатку складвалася нібыта ўсё добра. У роднай вёсцы Рацюны Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці бацькі ні бедна, ні багата. Гэта была тэрыторыя Заходняй Беларусі, якая ўваходзіла ў склад даваеннай Польшчы.

Да вайны паспеў крыху павучыцца ў савецкай школе. А там падаспела вайна з фашыстамі. І гэтую нязгоду перажыў. А вось пасляваенны пажар, які спапяліў будынак пошты, дзе працаваў бухгалтарам, перакрэсліў усе надзеі. Гарэла ў тыя гады шмат. Было каму падпальваць. А вось злавіць злачынцаў не ўдавалася. Таму міліцыя затрымлівала, хто пад руку патрапіць. Старшы лейтэнант Шавялёў стаў злым анёлам Паўла.

— Хто даў загад спаліць пошту? Як гэта зрабіў?

Далей арышт, следства, збіццё да страты прытомнасці. Пэўна, забілі б, але патрэбна было наладзіць суд і паказаць народу яго класавага ворага. Адзін з афіцэраў спакойна сказаў:

— Я ведаю, што ты не вінаваты. Аднак нам патрэбна закрыць справу. Злавілі цябе, табе і адказваць. Так што падпісвай дакументы, ад расстрэлу выкруцішся. Атрымаеш гадоў з дзесяць лагераў. Тваё малалецтва ўлічаць.

Як у ваду глядзеў. Ваенны трыбунал войскаў МГБ даў 10 гадоў.

Лагеры тыя пачаліся з Салікамска. Людзі мерлі сотнямі, нават ад звычайнай дызентэрыі. Пазней трапіў у Караганду. Тут, у Карлагу, кожнага вольнанаёмнага трэба было вітаць, зняўшы шапку. Далей на шляху выпрабаванняў былі Енісейск, Дудзінка, Нарыльск. Тут прыняў удзел у хваляваннях. Падчас расправы загінула вельмі шмат людзей. Іх seклі з кулямётаў...

Ён выжыў у гэтым пекле. Пасля вызвалення закончыў дзесяцігодку. Высокіх пасад не займаў. Біяграфія была сапсавана, бо метка "вораг народа" назаўсёды прапісалася ў ёй

У 1990 годзе абласная газета надрукавала яго нататку пра палітычных зняволеных, рэабілітаваных, як Павел Антонавіч, і нерэабілітаваных, як тая ж Ларыса Геніюш. Быў пададзены тэлефон аўтара. Склалася ініцыятыўная група з 13 чалавек. 22 лютага 1990 года была пададзена заяўка на рэгістрацыю Гарадзенскай абласной асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій. Старшынём аднагалосна быў абраны Павел Жук. Арганізацыя напачатку налічвала 300 чалавек

Былыя вязні ГУЛАГа даведаліся, што ў архіве КДБ па Гарадзенскай вобласці захоўваецца пад грыфам "Захоўваць вечна" 15 тысяч спраў на асуджаных судовымі і не судовымі органамі па палітычных абвінавачваннях у 1939-1941 і 1944-1953 гадах.

Вялікім дасягненнем асацыяцыі стала выданне кнігі "Ніколі болей" (Вільня, 2000, укладальнік М. Патрэба) успамінаў былых палітычных зняволеных. Такія зборнікі трэба чытаць і перачытваць, каб ведаць бесчалавечныя выпрабаванні, якія вытрымалі такія людзі як Павел Жук, і мільёны іншых.

Актывісты грамадскіх аб'яднанняў Гародні, усе, хто ведаў Паўла Антонавіча, шчыра спачуваюць яго родным і блізкім. Памёр шчыры чалавек, нязломнага характару, змагар за беларускае Адраджэнне. Ён часцяком званіў у ГА "Таварыства беларускай школы", цікавіўся справамі, выказваў надзею на лепшы лёс, які дачакаецца Беларусь. Голас яго гучаў спакойна, упэўнена. Такія людзі ведаюць, што кажуць. Яны бачаць далей, чым мы, маладзейшыя, не спазнаўшыя выпрабавання на цвёрдасць у сталінскіх катавальнях.

Меркаваннем такім асобаў трэба даваць веры.

**Антон Лабовіч,**
Гароднія.

# Для грамадскіх арганізацыяў памяшканняў няма

**У Светлагорскім раёне (Гомельская вобласць) улады адмовілі раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ) ў прадастаўленні памяшкання.**

Светлагорская арганізацыя ТБМ дзейнічае з 1990 г. Юрыдычны адрас арганізацыі з 1999 г. афармлены ў будынку, які раней адносіўся да гарадской уласнасці. Цяпер гэты будынак прададзены мясцовымі ўладамі ў рэспубліканскую ўласнасць, і далейшае функцыянаванне юрыдычнага адрасу стала немагчымым. Таму рада раённай арганізацыі ТБМ звярнулася ў мясцовы выканаўчы камітэт з просьбай прадаставіць іншае памяшканне, на ўмовах арэнды.

Рада ТБМ у сваім звароце, у прыватнасці, спасылалася на дзейную Пастанову Савета Міністраў "Пытанні ТБМ імя Ф. Скарыны" ад 19.02.91 № 56. Пункт 5 гэтай пастановы вызначае: *"Выканаўчым камітэтам выдзяляць Таварыству беларускай мовы імя Ф. Скарыны памяшканні для размяшчэння ствараемых ім арганізацыяў".*

У сваім адказе **С. В. Меркулаў**, намеснік старшыні райвыканкама, напісаў: *"У дадзены час у камунальнай уласнасці раёна не маецца памяшканняў для прапановы іх у якасці юрыдычных адрасоў грамадскім арганізацыям і іх арганізацыйным структурам".*

*Наш кар.*

# Беларускі каляндар у міжваеннай Польшчы

*У часы міжваеннай Польшчы (1920-1939 г.) было цяжка з беларускай літаратурай, бо тады панавала прапаганда прыніжэння і забароны беларускай мовы (цяпер гэта самае робіцца, але ўжо „пабратэрску).*

*І вось самым даступным і папулярным сярод сялян Заходняй Беларусі быў беларускі адрыўны каляндар, які выдаваўся ў Вільні. Яго можна было купіць у мястэчковых крамах. Там друкаваліся розныя гаспадарчыя парады, "рады хворым і здаровым", жарты, многа вершаў заходнебеларускіх паэтаў і нашых класікаў (Я. Купала. Я. Колас і інш.), друкаваліся звесткі па гісторыі Беларусі.*

*І вось сяляне часта дзяліліся між сабою прачытанным абмяркоўвалі, а дзе і смяяліся, а такога было многа. Я сам, будучы падлеткам, захапляўся вершамі, а таксама гістарычнымі звесткамі з нашай мінуўшчыны. Адтуль я даведаўся пра Усяслава Чарадзея, К. Каліноўскага, пра дзяржаўную мову ВКЛ, пра само ВКЛ. Было там сказана і пра падзел нашага народа на беларусаў і палякаў на рэлігійнай аснове, што зусім не абавязкова, калі каталік то паляк, а калі праваслаўны то беларус. Я многа вершаў запісаў у сшытак (на жаль мала іх засталося). А многія засталіся у маёй памяці, якая у той час была выдатная (не тое, што цяпер).*

*І вось гэтыя вершы (вясёлыя і сумныя, бытавыя і патрыятычныя) высылаю Вам, каб мелі ўяўленне пра тоя, што было ў тым "маім" календары. Вершаў нашых класікаў (Я. Купала. Я. Колас. Максім Танк і інш.), а іх было вельмі многа, я не змяшчаю, іх творы выдадзены ў многіх тамах.*

*І вось вершы па памяці. Магчыма некаторых з іх аўтары вядомыя, але я ў той час не стараўся запамінаць іх прозвішчы ці псеўданімы. А можа некаторыя з іх народныя творы. Мяне цікавіў галоўным чынам іх змест. Магчыма, і ў змесце некаторыя словы не дакладныя, усё такі за столькі гадоў і памяць магла падвесці.*

Пагдядаў на неба Янка,
Як там лётаў самалёт,
І гаворыць да суседа,
Папраўляючы жывот:
- Самалёт – якое дзіва,
Каб я многа грошай меў,
Дык білет сабе купіў бы
І паляцеў бы, паляцеў
Проста ў неба, Богу ў рукі,
Як даўней святы Ілья.
- Не браток, - сусед гаворыць, -
Грэшна нашая зямля,
А над ёю, перад небам
Страхавера ўжо вісіць,
Праз яе цяпер у неба
І Ілья не паляціць

(Падумайце над гэтым вершам.)

* * *

Раз пытаўся Юрка ў Янкі,
Аглядаўшы самаход:
- Ці знайшоў бы канец свету,
Каб ім ехаў цэлы год?
- Нат хутчэй, - гаворыць Янка,
Бо й за месяц даляцім,
Толькі трэба самаходам
Ехаць проста, як глядзім.
- А дарогай ці знайшоў бы?
І тлумачыць Янка зноў:
- Не, дарогай не знайшоў бы,
Бо ў дарог няма канцоў.

**Песня п'яніцы**

Пан заплаціць за работу,
А напоіць ласа жыд,
Гэй, гуляй жа аж да рання,
Пі, гарэлку у крэдыт!
Каса скосіць сенажатку,
Саха сама шнур ўзарэ,
Дык танцуй жа да упадку,
Танцуй покуль смык дзярэ!
Ёсць сякера-будуць дровы,
Намалоціць і сам цэп,
Дык гуляй жа і не думай,
Абы губа, будзе хлеб!




* * *

- Як табе на службе.
Ці работы многа? -
Так пытаў сусед між іншым
Янку Канцавага.
- Ой, не дай Бог, суседзе,
За чужою поўзаць гаспадаркай,
Дзень і ноч як лунь таўкуся,
Як у пекле Марка.
А сусед яму навучна
І набожна клепе:
- Хоць тут цяжка жыць на свеце,
Зато ў небе будзе лепей.
- Знаю, знаю я, суседзе, -
Адчыкрыжыў Янка -
Бокам вылезе мне ў небе
Гэта абяцанка.

* * *

На свеце многа наракання,
І многа слёз, і многа бед,
Але як кажа нам казанне,
Вядзецца гэта з даўніх лет!
На маладых старыя ўсеўшы.
Ды вельмі брыдка ганяць іх,
Але, як збоку пагдядзеўшы,
Няма за што хваліць і самых.
Ні адзін бацька наракае,
Што п'яніца яго сынок
Але няхай прыпамінае,
Як сам у водцы мок і мок.
Цяпер мацеры не міла
Пашаны ад дачкі няма,
А тое бедная забыла,
Што так рабіла і сама.

* * *

Ой спаліце, пяруны,
Майго Янку, бо дурны
Назаляе толькі мне,
А каб сватацца, дык не!
Я ж казала ўжо не раз:
- Прысылай сватоў да нас.
Татка добры, ён аддасць
І ў пасаг цялушку дасць.
А той Янка, той благі
Ўсё смяецца: гі-гі-гі.
Да таго ж часамі кпіць
Ну, чаго-ж табе карціць.
Ой прайлецеся дажджы
А ты Янка падажджы,
Учыню табе бяду,
За нікога не пайду!

* * *

На прызбе сеўшы каля хаты
Вядуць старыя сказ такі:
- Ну, шмто ж старая, паміраем,
Каму ж пакінем мы дабро?
- Стары, дурны! Каму? Вядома,
Дзеткам нашым жа яно.
- А калі ў нас дзяцей не будзе,
Не тыя годы ўжо ідуць.
- Стары дурны, не будзе дзетак,
Тады ўнукі разбяруць!

* * *

Як ліхія думкі, мыслі,
Над зямлёю хмары звіслі,
Ах, вы хмары, што ж вы сталі,
Нашто неба нам заслалі,
Скрылі сонца, чарадою
Таўчэцеся над зямлёю?
Чаму ж ўвесну (улетку) над палямі
Не ліліся, вы, слязамі?
А нас ветры так сушылі,
Чаму ж збожжа не мачылі?
Мы на неба паглядалі,
Вокам, хмары, вас шукалі,
Як гарэлі нашы нівы,
Тады хмары, дзе былі вы?
Сохла праца наша ў полі,
Як мы, хмары, і вы без волі.

* * *

Лёгка ўздыхнулі ў полі вятры,
Сонца раней узышло, як учора,
Жаваранак недзе ў хмарах разліў
Звонкае гора.
За баразною ішоў аратай,
Ціха на коніка нукаў,
Можа і не цяжка, а нейк спіна
Гнулася крукам.
Думаў пра хату, што хлеба няма,
Хоць за стол дзеткі паселі,
Маці на пальцах худых да жніва
Лічыць нядзелі.
Не сумавалі чамусьці цяпер,
За пустой міскай чацвёра,
Мо грэла сонца ў вокны цяплей,
Лепш чым учора.

* * *

Беларусам я радзіўся,
Беларусам буду жыць,
Беларускую зямельку
Буду шчыра я любіць,
Бо радзімая старонка
Над усё мне даражэй,
Беларуская гаворка
Над усё мне прыгажэй.
Землю родную і мову
Я нікому не прадам,
За народ наш беларускі
Я жыццё сваё аддам.

* * *

Ты гадуй сынка, матуля,
У пялёнкі спавівай,
Калышы, пей: "Люлі-люлі",
Пей паціху: "Баю-бай".
Над калыскай з бегам ночак
Песні роднай не жалей,
Каб, як вырасце сыночак,
Верным сынам быў ён ей.
Як навучыцца хадзіці,
Маткі мову разумець,
Ты вучы яго любіці,
Усё сваё ў пашане мець.
Выпраўляй яго у людзі,
На дарогу блаславі,
Разам з крыжам дай на грудзі
Роднай вузельчык зямлі,
Каб не даўся ў крыўду здзекам,
Не забыў сваіх старон,
Каб вярнуўся чалавекам
К роднай Бацькаўшчыне ён.

* * *

За белай сасновай труною
Сагнуўшысь суседзі ішлі,
Труну у магілу спусцілі,
Сыпнулі па жменьцы зямлі.
Спі бедны наш браце, не раз ты
Праз цэлыя ночы не спаў,
А змораны, потам абліты
Мазольна на хлеб працаваў.
Спі, дай ты рукам адпачынак,
Дабра шмат зрабілі яны,
Хоць больш ты награды не маеш
Кроме гэтай сасновай труны.
Ужо скора ўсе мы паляжам
У гэтых магілах сырых,
Спі, бедны наш браце, нядоўга
Саспіш без суседзяў сваіх.

* * *

Не дай Божа сэрцам знікнуць
І душой апасці,
Страціць веру і надзею
На жыццё і шчасце,
Бо без веры і надзеі
Ў свеце ўсё пастыла,
Бо, згубіўшы сэрца крэпасць,
Чалавек – магіла.

*А цяпер некалькі вершаў, якія я некалі (у трыццатыя гады) перапісаў з календарных картак, і частка якіх цудам захавалася. Тут ужо ёсць і прозвішчы аўтараў або іх псеўданімы.*

*І хаця, як вышэй я сказаў, што вершаў вядомых нашых класікаў, якіх было многа ў календары, я змяшчаць не буду, але ўсё такі пачну з верша майго куміра тых "польскіх часоў" Максіма Танка.*

**Сем гадкоў**

Сем гадкоў, мой браце маеш
Сем гадкоў,
У лемантары прачытаеш
Сем радкоў.
У першым, што беларус ты,
Дзе жывеш,
Як з кавалкам чорнай лусты
Ты арэш.
Трэці будзе мо аб песні
Гаварыць
І аб сонцы на прадвесені,
Што гарыць.
Навучыцца мілы браце
Сем радкоў,
Павіднее нам ў хаце –
Мужыкам.

(Так у картачцы.)

* * *

Любы мне мой край радзімы,
Беларусь святая:
Тут радзіліся, узраслі мы,
Усё нас тут вітае.
Люба родная старонка,
Душам нашым світа,
З ёй, ці соладка, ці горка,
Мы жывём, і квіта.

*А. Зязюля.*

**Многа сіл маладых**

Многа сіл маладых
У грудзях, у маіх,
Як прастору у полі.
Няма рады адно
Адчыніць ім вакно
І даць поўную волю.
Я бы тады ў адзін міг
Даў бы шчасце для ўсіх
І даў бы ўсім лепшую долю.

*Цішка Гартны.*

* * *

Мову родну – скарб вялікі
Продкаў, прадзедаў, дзядоў,
Паважай, любі, да смерці
Цэлым сэрцам і душой.
Нівы, сумныя палоскі,
Шумны спеў сваіх лясоў,
Іх любі, любі да смерці
Цэлым сэрцам і душой.
Умярці, ў магілу легчы
За край родны будзь гатоў,
Ды цябе палюбяць дзеці
Цэлым сэрцам і душой.

*Малады Дубок.*

**Мой край**

Край мой там, дзе сонца вечна
Рвецца ззяць сваёй красой,
Там, дзе мог бы я бяспечна
Супачыць сваёй душой.
Край мой там, дзе вечна хвалі
К жыццю новаму плывуць,
Дзе не стогнуць нудна далі,
Песню - ж вольную пяюць.
Край мой там, дзе дуб сталетні
Не падатны глуму бур,
І грабы з красы сусветнай
Не баяцца злых віхур.
Край мой там, дзе Нёман льецца
Серабрыстай паласой,
Дзе усё, усе смяецца,
Дзе зіяе ўсё красой.

*А. Гурло.*

# Беларускі каляндар у міжваеннай Польшчы

*Нар. загадка.* "Было святое, і будзе святое, а ў небе не было і не будзе"?
*Адгадка :* Бацькаўшчына, зямелька родная.
*(М. Федароўскі, т.;.бач. 415(465?)*

**Беларусь**

Край легенд,
Крыжоў, магіл, курганаў,
Край тугі.
Бальзам жывых крыніц,
Край смугі.
Бялявых кос туманаў,
Край палёў,
Краса шумлівых ніў.
Край балот,
Нізін, азёраў наскіх
Край лясоў,
Маўклівых сосен-струн,
Край паэм,
Адвечных песен-казак,
Дарагая сэрцу
Беларусь.

*Паўлюк Трус.*

**Хрыстос ускрос!**

Прайшла зіма і чар вясны
Зыйшоў як дар з нябёс,
У паветры радасна званы
Гудуць – Хрыстос ускрос!
К жыццю ўваскрослася зямля
П'е ласкі сонца кос...
Жывой прыроды чую я
Гымн-спеў Хрыстос ускрос!
Красой любуецца пагляд
Радзімых ніў палос...
Плыве з-пад стрэх сялянскіх хат
Прывет – Хрыстос усрос!
Браты, пакіньма марны страх,
Збудуем лепшы лёс.
Смялей, смялей на новы шлях,
Бо й нам Хрыстос ускрос!

*Алесь Мілюць.*

* * *

У бездарожжах блукацца даволі,
Абтрасу я з вачэй цяжкі сон,
І ізноў загаруся на волі
У вагні ап'яняючых дзён.
Годзе ў песнях туляцца нядолі,
Што вякамі цярпелі дзяды,
Выйду раннем у роднае поле,
Расспяваю задор малады.
Бо ці ж сэрца стрымаць каму болей,
Калі радасцю пеняцца дні,
Над краінай жуды і патолі
Спеў юнацкі мацней зазвіні.
У бездарожжах блукацца даволі,
Абтрасу я з вачэй цяжкі сон,
Я хачу загарэцца на волі,
У вагні ап'яняючых дзён.

*Хведар Ільяшэвіч.*

**Моладзь**

Гэй моладасці парыў!
Пакуль кроў гарача
Да сонца, да зары
Спяшай, хто не стары,
Бо сонца шлях нам знача.




Няхай мяце віхор,
Няхай скавыча неба,
Да сонца, на прастор
Спяшай на сход, на збор.
Мы там святло сустрэнем,
Хай ногі ломіць брук,
Зямля хай стогне нема,
Гэй не шкадуйце рук,
Да сонца, да навук
Насустрач пойдзем смела!

*П. Граніт.*

* * *

...Прыгожыя песні твае, беларусе, хапаюць за сэрца, жалобяць душу, туманяць слязамі, плачуць і стогнуць, і горкаю упёкаю, ціхаю скаргаю плывуць к далёкаму, невядомаму сіняму спакойнаму небу.

*Тарас Гушча.*

**Нашыя песні**

Як вяночак васільковы
Дзяўчына пляла,
Ля зялёнае дібровы
Песню завяла.
Як матуля калыхала
Мілага сынка.
Пра гаротную пяяла
Долю мужыка.
Як да шлюбу з маладою
Яначку вялі,
Маладзіцы грамадою
Песню загулі.
Так радзіліся ў нас песні
Кожнаю парой.
Летам, восенню, прадвеснем,
Сцюжаю зімой.

*Макар Краўцоў.*

* * *

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце.
Слязу нядолі праліла.
Люблю народ наш беларускі,
Іх хаты ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.
І песню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А гукі голасна над нівай
Пераліваюцца, плывуць.
Усё ў краю тым мне сэрцу міла.
Бо я люблю край родны мой,
Дзе з шчасцем першым я пазналась
І з гора першаю слязой.

*Канстанціна Буйла*
*(імя як у картцы).*

**Песня**

Скуль узялася тонкая, простая, манатонная...

Яна нарадзілася у вёсцы, у беларускай вёсцы. У доўгія гадзіны за кудзеляю, пры свечце лучыны пялі яе дзяўчаты...

Ідучы ўвечары дадому, абыймалі жнеі жалібаю-песняй усё поле, забываліся за ёю долю сваю нягодную і клікалі долю лепшую песняй...

*А. Мацейчык.*

**Беларусь перадусім!**

Беларусь хай слова гэта
Будзіць новы дух між нас,
Нам дабро яе – во мэта
І найвышшы нам наказ.
Ні сляза, ані стагнанне,
Ні пакора, ані страх,
Толькі праца і змаганне -
Гэта наш да мэты шлях.

Беларусі сын ніколі
Не зрачэцца сваіх праў,
Знойдзе дужасці даволі,
Каб нявольнікам не стаў.
Дык ці ў шчасці дзень пагодны
І ці ў буры дні благім,
Знайма першы кліч народны:
Беларусь перадусім!

*А. Стэповіч.*

*Гэты верш Альбіна Стэповіча адрозніваўся ад многіх іншых вершаў заходнебеларускіх паэтаў , дзе гаварылася галоўным чынам пра цяжкае сялянскае жыццё, сваёй прызыўнасцю, патрыятызмам. Мне вельмі хацелася яго спяваць. І я падабраўшы з песняў, якія мы спявалі на ўроках спеваў у польскай школе найболей падходную мелодыю (Naprzod druzyno strzelecka...), спяваў гэтую песню-верш ці то ў полі, ці ў лесе сам для сябе.*

*Не так даўно я даведаўся, што на словы гэтага верша ёсць мелодыя. І калі ў "НС" у свой час быў раздзел "Давайце спяваць па беларуску", хацеў папрасіць змясціць мелодыю да гэтага верша А. Стэповіча, але так і не сабраўся.*

*А на заканчэнне хачу змясціць "некаляндарны" верш М. Танка прысвечаны Я. Купалу. Гэта быў 1940 год. Ён быў надрукаваны, калі не памыляюся, у беластоцкай абласной газеце (назвы дакладна не памятаю).*

**Янку Купалу**

Мы годы пройдзеныя помнім,
Усе мы ў тыя дні раслі,
Калі вясны яшчэ над Нёманам
Не прадвяшчалі жураўлі.

Калі калышучы Алесю,
Спявала маці ў сумны змрок,
З крыніц тваіх жывучых песень
Мы ўсе пілі гаючы сок.

І там, дзе ты праходзіш сёння,
Нясеш пявучых гукаў чар,
Мільёны струн і сэрцаў звоняць,
Цябе вітаючы пясняр.

Бо ў дні мінулае нядолі,
Тваімі песнямі народ
Рваў межы, кайданы няволі
І прывітаў зары усход

*М. Танк, г. Беласток, 6 снежня, 1940 год.*

**І яшчэ адзін урывак верша Я. Купалы**

Мне мудрасці кніжнай не даў бог пазнаці,
Мой бацька не мог даць раскошаў такіх,
Навучаўся я слоў беларускіх ад маці
І дум беларускіх без школы і кніг.

*("Мая навука",*
*адкуль перапісана не памятаю.)*

*І яшчэ вернемся да каляндара.*

**Зіма**

То не снег за вятрамі ў пагоні,
Не мяцеліца махае крылом,
То лятуць белагрывыя коні,
Гэта пух лебядзіны кругом.
Гэта сыпяцца белыя краскі,
Цветабоі вішнёвых садоў,
Гэта чары зімовае казкі,
А не белая накіп снягоў.
І так хочацца сэрцам паверыць,
Што не гурбамі снег пад акном,
А заснуў заблудзіўшыся лебедзь.
Захаваўшы свой дзёўб пад крылом

*Міхась Машара.*

*Былі і парады – як лячыцца, як варэнні рабіць і т. п.*
*Вось адна з іх.*

**Як трэба жыць, каб здаровым быць**

Каб не мець хваробы лішняй,
Грушы, яблыкі і вішні
Заўсягды перад ядой
Мыйце чыстаю вадой.
Зелень міла для вачэй,
З ёю й дышыцца лягчэй.
Дык шануйце ж зелень, дзеці.
Дрэўцы самі вы садзеце.
Каб больш сонца і паветра
Скарыстаць ты мог за лета,
Дык для мілых ты гасцей
Адчыняй вакно часцей.

*Былі і жарты Іх было многа*

**У каапературыве (у краме)**

Ігнась: Пачом гэтыя цукеркі?
Крамнік: Шэсць цукеркаў за пяць грошаў.
Ігнась: Ага! Дык пяць будзе за чатыры грошы. Чатыры за тры і г.д., а адна цукерка за дарма.

Мачыха прыйшоўшы з кірмашу дала сваім двум пасынкам па яблычку, а сваймусыночку не дала нічога. На пытанне пасынкаў, чаму, яна адказала: "Я ж вам дала па цэламу яблыку, а вы яму хоць па палавінцы дайце."

*І нарэшце – канец! Дык дзеля чаго я Вам пішу?*

*Я хачу, па меры маіх магчымасцяў, паказаць змест і ролю гэтых непрыкметных каляндароў, якія побач з зачытанымі і пацёртымі да апошняга беларускімі кніжкамі (Ядвігіна Ш., М. Гарэцкага, М. Багдановіча і інш.), якія браліся невядома скуль і перадаваліся з рук у рукі, выконвалі немалую ролю ў выхаванні ў нашых людзей у той час, хоць якога патрыятызму і павагі да нашай роднай мовы, гісторыі культуры.*

*Гэта я у поўнай меры адчуў на сабе. Гэта былі мае першыя беларускія "універсітэты".*

*З глыбокай пашанай*

***Тарасевіч Георгі.***

## У МЕНСКУ ПРАДСТАЎЛЕНА КНІГА ПРА НАРОДНАГА МАСТАКА БЕЛАРУСІ Л. ШЧАМЯЛЁВА

У менскай Гарадской мастацкай галярэі твораў народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва 27 студзеня адбылася прэзентацыя кнігі беларускага мастацтвазнаўца Барыса Крэпака "Леанід Шчамялёў. Рытмы і фарбы часу".

На 300 старонках кнігі прадстаўлены ўспаміны аўтара і жывапісца Л. Шчамялёва, якія падтрымлівалі сяброўскія адносіны на працягу больш чым 40 гадоў. Акрамя таго, у рабоце над літаратурна-мастацкім выданнем Б. Крэпак выкарыстоўваў успаміны родных і сяброў Л. Шчамялёва, а таксама архівы Менскага мастацкага вучылішча імя Аляксея Глебава.

Адкрываючы прэзентацыю кнігі, дырэктар галерэі мастацтвазнаўца Тацццяна Бембель зазначыла, што выданне з'яўляецца пятым у серыі "Жыццё славутых людзей Беларусі" і "важнай падзяй у культурным жыцці краіны, паколькі Леанід Шчамялёў зрабіў каласальны ўплыў на фарміраванне некалькіх пакаленняў беларускіх мастакоў".

"Галоўная вартасць кнігі ў тым, што аўтару ўдалося захаваць дух жывых зносінаў. Вельмі лёгка чытаецца гэтае выданне, у якім прадстаўлены многія старонкі гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва", — сказала Т.Бембель.

Старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Басалыга зазначыў, што "пра ўсіх нас гэтая кніга, якая з'яўляецца энцыклапедыяй жыцця творчага аб'яднання". У.Басалыга перакананы, што ў саюзе мастакоў працуюць і іншыя мастацкі, якія "дастойныя гонару атрымаць такі прыжыццёвы помнік".

Кніга, ілюстраваная фатаграфіямі з архіваў аўтара і мастака, а таксама фотамайстра Юрыя Іванова, выпушчана выдавецтвам "Мастацкая літаратура" накладам 2 тыс. экзэмпляраў.

***Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.***

# Алесь Лось: кожны інструмент мае сваю душу!

*Не так даўно на айчынным музычным рынку з'явіўся дыск, які знаёміць слухачоў з цэлым пластом забытай беларускай народнай спадчыны – жанрам лірніцкіх спеваў. Дыск "Ліра. Лірніцкія спевы, псальмы і канты" запісаў і выдаў таленавіты музыкант і майстар народных інструментаў Алесь Лось.*

*Праграма альбому, якую выконвае ў суправаджэнні ліры Алесь Лось, мае мэту адраджэння жанру лірніцкіх спеваў ва ўмовах цікаўнасці да нацыянальнага фальклору нашага народу.*

*Сёння мы гутарым з гэтым музыкантам і майстрам, цікавімся ў яго, ці можна казаць аб наяўнасці ў Беларусі адметнай нацыянальнай школы ігры на гэтым унікальным інструменце — ліры? Слова Алесю Ласю:*

—Пакуль пра гэта казаць зарана. Бо кожная школа прадугледжвае наяўнасць вучняў, методыкі і настаўнікаў, які з дапамогай гэтай методыкі перадаюць веды і навучаюць вучняў выканальніцкаму майстэрству. Нажаль, у Беларусі гранне на ліры і вытворчасць гэтых інструментаў – справа адзінак.

Некаторыя фальклорныя і фолк-мадэрн-гурты спрабуюць выкарыстаць гучанне ліры ў аранжыроўках сваіх кампазіцый. Напрыклад, Іван Кірчук з Этна-трыо "Троіца", гурт "Палац" рабілі цікавыя спробы ў гэтым рэчышчы, але казаць пра тое, што ліра заняла свае пачэснае месца ў галерэі нацыянальных музычных інтрументаў, зарана.

***—Але ж вядома, што народныя майстры і да вас займаліся вырабам ліраў. Значыць, не ўсё так змрочна?***

—Так. Напрыклад, доўгі час у Беларусі працаваў слынны народны майстар Крайко, які распрацаваў уласны тып інструмента — ліру карбовую. Гэты інструмент меў дзве струны – бурдонную і мелодычную, клавішны механізм знаходзіўся не зусім традыцыйна – зверху. Крайко меў таленавітага вучня Уладзіміра Пузыню, які прадоўжыў традыцыю вырабу ліры і выканання на гэтым інструменце.

Я паспрабаваў вярнуцца да традыцыйнай чатырохструннай схемы – две бурдонныя струны і две меладычныя струны. Такіх ліраў я зрабіў не шмат, але карыстаюцца яны попытам пакуль не ў Беларусі, а больш у краінах Еўропы.

***—Чаму, на вашую думку, адбываецца так, што вашыя ліры становяцца своімі ў далёкіх краінах?***

—Мне здаецца, што эстэтыка лірніцкіх спеваў у нас пакуль не ўспрынята. Ліра сёння знаходзіцца ў "неадкрытым" стане. Таксама, як і тэмбр народнай скрыпкі ці дуды. Вуха павінна быць прызвычаеным да іх гуку. Напрыклад, у некаторых вёсках Віцебскай вобласці смыковую музыку людзі не могуць слухаць, бо лічаць гук яе занадта рэзкім. А вось на Лепельшчыне і Полаччыне ў людзей на слыху дуда. Яе гукі радуюць і прымушаюць успомніць мінулыя часы. У гэтых людзей засталася ўспрыманне эстэтыкі гэтага інструмента.

І вось наш дыск "Ліра. Лірніцкія песні, псальмы і канты" павінен, на маю думку, паспрыяць пашырэнню папулярнасці такога цікавага і самабытнага інструмента як ліра. На яго гукавых дорожках запісаныя аўтэнтычныя песні, што бытавалі ў асяродках лірніцкіх брацтваў. Нагадаю, што лірніцкія брацтвы – гэта сукупнасць людзей, якія жылі вельмі цяжкай працай. Лёс лірнікаў быў не з лёгкіх, бо пераважна яны былі сляпымі. І таму жанр лірніцкіх песень мае непадобны музычны настрой у адрозненне ад іншых жанраў народнай музыкі...

***—Якія асаблівасці ліры могуць зацікавіць маладых выканаўцаў?***

—Сам інструмент мае вельмі шырокія выканальніцкія магчымасці. На ліры можна іграць і традыцыйныя мелодыі, і нейкія музычныя рэканструкцыі ці імправізацыі, магчыма выконваць нават фолк-джаз. Але для гэтага трэба ведаць базу — фальклорныя крыніцы, а таксама мець адпаведнае музычнае здуменне.

Вялікую цікаўнасць да ліры выказваюць нашыя суседзі з Расіі, Польшчы, Латвіі, Літвы, адкуль часцей і замаўляюць у мяне гэтыя інструменты. Думаю, што прыйдзе час і беларусы пачнуць больш паважна ставіцца сваёй нацыянальнай спадчыны. Мне б хацелася, каб дыск "Ліра. Лірніцкая песні, псальмы і канты" гэтаму паспрыяў, прыцягнуў увагу маладых выканаўцаў. Я і выдаў дыск з лірніцкімі песнямі, каб акрэсліць сам жанр лірніцкай песні, паказаць, што ў нас захавалася ў гэтым жанры, давесці тое, што яшчэ ёсць вялікая дзялянка для творчых пошукаў.



***—Названы дыск выйшаў у рамках праекту "Прошча". Што гэта за праект, які вы ставіце мэты ў яго дзейнасці?***

-- Спачатку я так назваў шэраг сваіх акцый, якія былі звязаны з рэканструкцыяй беларускай этнічнай культуры, і не толькі музычнай. Першая акцыя праекта адбылася ў мяне на хутары пад Ракавым чатыры гады таму. Гэта быў летнік для моладзі з Латвіі, Польшчы і Беларусі. Там праходзілі майстар-класы па такіх дысцыплінах, як народныя танцы, аутэнтычная інструментальная музыка, мы нанава адкрывалі сакрэты архаічнага пляцення, уручную выраблялі паперу...

Цяпер "Прошча" – мой аўтарскі праект. Але праект не камерцыйны, а культуралагічны, які мае мэты завастрэння ўвагі грамадства на ягоных культурных і гістарычных каштоўнасцях. Ёсць такая думка, што культура чалавека раўнапрапарцыянальна ведам гісторыі: чым глыбей чалавек спазнае сваю гісторыю, тым глыбей яго культурны ўзровень. Таму са сваім праектам "Прошча" я імкнуся ісці дарогай сваёй праўды — стараюся паказаць людзям, што ў нас ёсць цікавая старажытная народная музыка, вельмі шырокі пласт сярэдневечнай, свецкай культуры, якой вось толькі зараз пачынаюць цікавіцца.

Праект "Прошча" адчынены для ўсіх тых, каго цікавіць праблемы адраджэння і суперажывання сваёй гісторыі і культуры, праз такія рэчы, як спевы, музыка, праз абавязковыя веды гісторыі і мовы.

***—Ці можна назваць ваш музычны гурт часткай праекта "Прошча"?***

—Так. Цяпер жа ў нас стабілізаваўся склад музычнага гурта і называецца ён "Капэла Алеся Лася". А гэта — Марына Каленцыц (цымбалы), Ганна Харчанка (бас, басэтля, віяланчэль, скрыпка), Юры Рымашэўскі (кантрабас, некаторыя духавыя інструменты), я ж граю на скрыпцы, ліры, дудзе, басе, цымбалах. Музыканты, якія граюць са мной – прафесіяналы. Гэта, з аднаго боку лёгка, а з другога — цяжка, бо для выканання аўтэнтычнай музыкі трэба вучыцца іначай мысліць. Тым не менш, нашымі стараннямі мы запісалі і падрыхавалі да выхаду наш новы дыск, які называецца "Смыкавая музыка Беларусі. Грае Капэля Алеся Лася". Гэтым дыскам мы хацелі паказаць тое, якой была смыковая музыка ў канцы XIX-га і ў пачатку XX-га стагоддзя, як бавіліся нашыя прадзеды і прабабулі.

У нашай капэлі дзве басэтлі, адзін кантрабас, скрыпкі, цымбалы —аўтэнтычныя інструменты, якія маюць сваю душу, свой лёс. На дыску будуць прадстаўлены творы, якія я запісаў падчас фальлорных экспедыцый ад старых вясковых музыкантаў, які гралі полькі, абэркі, вальсы. Першы дыск "Смыковай музыкі Беларусі" – толькі частка таго, што мы назапасілі. Думаю, што будзе і другая частка гэтага дыска.

***—Які з вырабленых вамі музычных інструментаў вам даражэйшы за іншыя?***

-- Выраб інструмента – як нараджэнне дзіцяці. І момант родаў напоўнены радасцю: усе завершана, рукі баляць ад выкананай працы. Але бачыш, што ўжо ёсць форма інструмента, бачыш што да яе можна дадаць... Цяжка сказаць які інструмен прыносіць больш радасці, бо кожны з іх мае сваю душу і ты, як майстар, настройваешся на яе. Бывае, што інструмент не гучыць, магчыма нешта не так было зроблена, нешта не так было сабрана. Трэба разбірацца, глядзець, прыслухоўвацца, строіць, каб у інструмента з'явілася душа. Але бывае, што інструмент атрымаў жыццё і гучыць адразу. Гэта самая вялікая радасць.

**Гутарыў Анатоль Мяльгуй.**

**На здымку:** Алесь Лось з лірай.

## Зямля пад белымі крыламі



Выстава, прысвечаная 75-годдзю Уладзіміра Караткевіча 1930 - 1984.
Адкрыццё выставы адбудзецца 1 лютага 2006 года а 17 гадзіне ў Палацы Мастацтва, Менск, вул. Казлова, 3.
Беларускі саюз мастакоў.
Рэспубліканская мастацкая галярэя "Палац Мастацтва".

## *Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 4.*

7. Рагатка.
8. Цвыркун.
11. Багатыроў.
12. Сланечнік.
14. Целеш.
15. Атолава.
16. Асмак.
19. Эксперыментатар.
20. Трэфа.
21. Узвар.
25. Оталарынгалогія.
28. Столь.
29. Валенса.
30. Сітак.
31. Анікейчык.
34. Творчасць.
35. Карыфей.
36. Віскулі.

1. Гаравец.
2. Тарасенка.
3. Акцыз.
4. Звяно.
5. Брачыслаў.
6. Кулінар.
9. Контррэфармацыя.
10. Славяназнаўства.
13. Племя.
17. Апарэль.
18. Кажанок.
22. Сталактыт.
23. Анкер.
24. Піліпаўка.
26. Штандар.
27. Пасціла.
31. Айцец.
32. Орлік.

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 30. 01. 2006 г. у 10.00. Замова № 264.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2200 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1270 руб., 3 мес.- 3810 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.